Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 49 (4593) 10 снежня 2010 г.

## У нумары:





# Б'ецца сэрца нашай Беларусі

**Восень і зіма — пара роздуму. Так было заўсёды. Зрабіўшы неадкладныя справы, прыбраўшы на нівах жыта, дакапаўшы бульбу, чалавек задумваецца пра тое, якім будзе яго заўтрашні дзень. Выйшаўшы на новую восеньскую сяўбу, шчыра вачамі вітае зялёны разліў руні. Вось яна, зялёная рунь пад пахмурным небам! Гэта адзін з малюнкаў таго спадзеву аднаўлення жыцця, якое рухаецца спаконвечна і на нашай беларускай зямлі. А першы снег — як чыставік самой прыроды: узносіць душу і сэрца, заклікае — твары!**



"Нам востра не хапае высакакласных кніг, спектакляў, кінафільмаў пра нашу маладую краіну, пра жыццё людзей, — адзначыў Аляксандр Рыгоравіч у сваім дакладзе на IV Усебеларускім народным сходзе. — І мы за гэта гатовыя плаціць немалыя грошы. Праз мастацтва народ павінен ведаць сучаснікаў".

Ужо ў далекаватым па часе 2006 годзе мне выпала быць дэлегатам Трэцяга Усебеларускага народнага сходу. У зале, побач з суайчыннікамі, слухаючы іх чуйнае дыханне, я думаў, што новага мы створым у будучым — на ўскраі той вялікай прорвіны, дзе апынулася і наша Беларусь падчас распаду вялікай і магутнай дзяржавы. Памятаюцца тыя лічбы, што гаварылі доказна, якім быў няўцешным стан эканомікі нашай краіны ў першыя суверэнныя гады, згадваюцца многія эмацыянальныя выступленні, пажаданні і звароты да ўлад рабіць усё магчыма неабходнае, каб будаваць новую квітнеючую Беларусь. Асабліва яркім і глыбокім па змесце быў на народным сходзе даклад Прэзідэнта краіны Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі. Ён даваў адказы на ўсе тагачасныя надзённыя пытанні, а для мяне, як і для многіх, асабліва выразна акрэсліў перспектывы нашага дзяржаўнага развіцця.

Мы пабудавалі новую краіну — літаральна за дзесяць апошніх гадоў. Пабудавалі дзяржаву, якую не спакусілі таннымі падманамі тыя, хто прадказваў ёй геаграфічнае небыццё і жадаў яе расцягнуць на кавалкі, як раскроены бохан хлеба, хто хацеў яе аддаць за бясцэнак алігархам сённяшняга свету, жадаў, каб нашы народныя звышпрыбыткі, здабытыя працоўным потам, асядалі ў кішэнях асобных уладальнікаў яхтаў і персанальных самалётаў. Гэтага на Беларусі, на наша агульнае шчасце, не адбылося. І думаю, ніколі не адбудзецца.

На краіны вялікай развале
Пад разбойным ашчэрам хапуг
Гэта мы Беларусь ратавалі,
Каб не счэз яе святасці дух.

Таўстасумы, упраўныя злодзеі,
Каму грош і не болей цана,
Нам з жальбою хітруча даводзілі,
Што сканае ў жабрацтве яна.

Ачышчэння духоўнага хвалі
Пракаціліся скрозь па зямлі.
Гэта мы Беларусь адстаялі,
Для нашчадкаў яе зберaглі.

Гэта вялікі гонар, які выпаў і майму пакаленню, пакаленню пасляваеннаму па даце нараджэння, прыкласці вялікія намаганні для стварэння сваёй маладой суверэннай краіны. Мы пабудавалі сучасную Беларусь, цывілізаваную. Беларусь, якая глядзіць шчырымі юнацкімі вачамі, якая са светлымі інтэлектуальнымі галовамі і розумам. Збудавалі краіну, у якой сучасная, заснаваная на дасягненнях навуковай думкі, эканоміка. Дзе кожны з нас, яе грамадзян, пачувае сябе годным чалавекам.

Канечне, на нашым агульнанародным будаўніцтве яшчэ многа і многа спраў для кожнага. І пра гэта мы сёння таксама думаем — ужо на Чацвёртым Усенародным сходзе, які толькі што гулкім напружаннем пачуццяў і думак прайшоў у нашым стольным Мінску, у самай вялікай форумнай зале Палаца Рэспублікі.

Я ўзіраюся ў адухоўленыя твары нашых суайчыннікаў. Яны — прадстаўнікі ўсіх рэгіёнаў маладой краіны — прывезлі на Сход сваё дзяржаўнае хваляванне і клопат пра наступнае наша пяцігоддзе, пра нашу сучаснасць і будучыню, якія твораць ужо сягоння сваімі рукамі і сэрцамі. Сур'ёзны аналітычны даклад Прэзідэнта нагадаў кожнаму з нас і сказаў цэламу свету пра зробленае і пра тое, што выпадзе рабіць ужо заўтра, каб наша Бацькаўшчына ўвайшла ў лік самых эканамічна і духоўна развітых краін у чалавечай супольнасці.

За апошняе пяцігоддзе наша краіна дасягнула значных поспехаў у прамысловасці, сельскай гаспадарцы і культурным будаўніцтве. Да тых, што ўжо меліся і сталі працаваць на поўную магутнасць, далучылася 130 новых прамысловых прадпрыемстваў, адрадзіліся, папрыгажэлі многія малыя і сярэднія гарады, пабудаваны аграгарадкі — сучасныя пасёлкі гарадскога тыпу ў сельскай мясцовасці з усімі выгодамі для камфортнага чалавечага жыцця. Газіфікаваны літаральна ўсе раёны Беларусі, створаны сучасна абсталяваныя медыцынскія цэнтры, спартыўныя збудаванні. Адроджаны гістарычныя святыні — замкі: Мірскі, Лідскі, Нясвіжскі. У гэты год — год анамальнай спякоты — сабраны дастаткова важкім наш ураджай, а тавары сельгасвытворчасці болей і болей прабіваюць дарогу сваёй якасцю і смакатой на сусветны рынак, становяцца поруч са знакамітымі "Беларусамі", "БелАЗамі", "МАЗамі".

Мяне, як і многіх дзеячаў культуры, кранулі словы, якія глыбінна люструюць сучасны дзяржаўны клопат: "Культура фарміруе дух нацыі. Вось чаму на першы план вылучаецца задача маральнага выхавання чалавека, выхавання і ўмацавання культурных і ідэалагічных асноў дзяржавы і грамадства", а таксама клопат дзяржавы пра развіццё літаратуры і мастацтва, пра неабходнасць стварэння новых вартасных твораў, якія здатны будуць пашырыць духоўную прастору нашай Беларусі ва ўсім свеце. Упэўнены — такія творы неўзабаве з'явяцца. Яны вырастуць з глыбіні самога нашага стваральнага жыцця. Не можа быць не чутым у свеце народ, які жыве годна і мужна, які жадае дабра і росквіту і суседзям, і ўсяму чалавецтву.

Прыгадалася нядаўняе, восеньскае свята беларускага пісьменства ў Хойніках. Як сардэчна і шчыра лунала яно над вуліцамі невялікага палескага гарадка, дзе ўдзячна помняцца і сягоння юнацкія крокі незабыўнага Івана Мележа. Гэта ягоным творчым геніем услаўлены хойніцкі край, гэта ён, народны пісьменнік, падараваў землякам тыя духоўныя сілы, якія дапамаглі выстаяць і ў дні нялёгкага выпрабавання — чарнобыльскага.

А ў парку княжым стаялі ў бронзе,
Зірнуўшы з вечнасці закахана,
Як клён з бярозаю пры дарозе,
Самоту збыўшы, Васіль і Ганна.

Я любаваўся табою, край мой,
Ты выцер слёзы бяды-навалы.
Вясёла, светла, парыўна, грайна
Душа палеская шчыравала.

Мой край, ты быў зноў у сіле-цвеце,
Ты не застаўся ў панылай скрусе.
Ты шчырым сэрцам гасцей прывеціў
Нам небам дадзенай Беларусі.

Там, у Хойніках, думалася пра літаратуру: колькі разоў гаючае роднае слова ратавала чалавечыя душы! І на мінулай вайне, і пасля яе — на руінах і папялішчах спаленых гарадоў і вёсак. Веру, што, таленавіта прамоўленае, яно памножыць духоўныя сілы і сягоння — на будаўніцтве нашага новага беларускага дома, незалежнай квітнеючай краіны. Яе сцены, думаю, будуць сагрэтыя сардэчнасцю і цеплынёй матчынай песні.

Наша краіна сягоння ў свеце, дзе спароджаны самы вялікі духоўны і эканамічны крызіс, выстаяла і годна паказвае, як трэба турбавацца пра чалавека, якім павінен быць клопат пра кожнага, хто працуе сумленна. Я не працую на алігарха, я працую на сваю дзяржаву і, магчыма, хацеў бы, каб большыя грошы плаціла яна і за маю працу. Але яна яшчэ і сама маладая, толькі ўстае на ногі, і я павінен ёй дапамагчы гэта зрабіць, бо ведаю: заўтра яна разлічыцца спаўна з кожным, таму што не згубіла свой гонар і сумленне, сваю нацыянальную свядомасць. Яна рухаецца насустрач чалавеку, а значыць, ідзе да мяне, ідзе да майго спадчынніка — да майго сына і ўнука. І гэта вельмі-вельмі важна.

Мікола МЯТЛІЦКІ,
лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь

Фота БелТА

IV Усебеларускі народны сход

# Культура фарміруе дух нацыі!

6 і 7 снежня ў Мінску праходзіў IV Усебеларускі народны сход. Гэты важны інстытут грамадска-палітычнага жыцця пачаў дзейнічаць у Беларусі з другой паловы 1990-х гадоў па ініцыятыве Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі. Сёння Усебеларускі народны сход з'яўляецца адной з найважнейшых форм народаўладдзя ў рэспубліцы.



У першы дзень працы сходу 2,5 тысячы дэлегатаў, прадстаўнікі ўсіх слаёў беларускага грамадства, слухалі грунтоўны даклад Прэзідэнта Беларусі. Даклад закранаў найважнейшыя пытанні палітыкі, эканомікі, сацыяльнай сферы нашай дзяржавы. Аляксандр Рыгоравіч ярка і даступна акрэсліў сітуацыю, у якой знаходзіцца сёння Беларусь, распавёў пра вынікі, якіх дабіліся сваёй дзейнасцю грамадзяне Беларусі за апошнія гады, прааналізаваў прычыны некаторых эканамічных цяжкасцей краіны.

У дакладзе Кіраўніка дзяржавы прагучала нямала слоў і ў адрас дзеячаў культуры і мастацтва. Між іншым, Прэзідэнт адзначыў, што беларускі народ працягвае папаўняць сусветную скарбніцу вялікімі імёнамі і творамі.

"Культура фарміруе дух нацыі! — выказаўся ён. — Вось чаму на пярэдні план вылучаецца задача маральнага выхавання чалавека, захавання і ўмацавання культурных і ідэалагічных асноў дзяржавы і грамадства. У Беларусі створаны неабходныя ўмовы для развіцця ўсіх відаў мастацтва і культуры. Сёння можна ўпэўнена сказаць: мы ўзнялі культуру з развалу, выцягнулі яе з палітычных разборак".

Аднак Аляксандр Рыгоравіч адзначыў таксама недастатковае выкарыстанне патэнцыялу нацыянальнай культуры ў фарміраванні і ўмацаванні міжнароднага іміджу краіны. І заклікаў працаваць над стварэннем культурна-турыстычных брэндаў, якія маглі б ярка, пазітыўна і поўна прадставіць Беларусь за мяжой. Бо ў краіне ёсць што паказаць і чым здзівіць іншаземных гасцей.

Мастацтва, па словах Прэзідэнта, павінна дапамагаць цаніць беларускую гісторыю, абуджаць у людзях патрыятычныя пачуцці, выхоўваць высокія нормы маральнасці. "Нам вострa не хапае высакакласных кніг, спектакляў, кінафільмаў пра нашу маладую краіну, пра жыццё людзей, — адзначыў Аляксандр Рыгоравіч. — І мы за гэта гатовыя плаціць немалыя грошы. Праз мастацтва народ павінен ведаць сучаснікаў.

Аляксандр Лукашэнка ахарактарызаваў беларускую мову як "важнейшы нацыянальны культурны здабытак". "Стагоддзямі склалася, што на нашай зямлі мірна і плённа ўжываюцца дзве родныя мовы, і дзякуй богу, што гэтак склалася. І ні адна з іх ад гэтага не пацярпела. Мы зберaглі ад разбурэння адзіную літаратурную беларускую мову. Не дазволілі яе ператварыць у зброю палітычнага супрацьстаяння і дыскрымінацыі. І ў далейшым ніякай гвалтоўнай беларусізацыі, роўна як і русіфікацыі, у краіне не будзе", — запэўніў Прэзідэнт. Паводле яго слоў, прызнанне беларускай і рускай моў дзяржаўнымі адпавядае як гістарычным традыцыям. так і сучаснаму стану моўнай сітуацыі ў краіне. "Гэта асэнсаваны выбар нашага народа", — адзначыў Кіраўнік беларускай дзяржавы.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
аглядальнік штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва"
Фота БелТА

# Галоўнае пытанне сучаснасці

Грамадскі савет па маральнасці ў Беларусі створаны зусім нядаўна. Але ён ужо заявіў пра сябе. Не як пра нейкую ўстанову, што выконвае функцыі цэнзара. Але як пра супольнасць людзей, што выступаюць абаронцамі дабра, чысціні, сям'і, мацярынства, дзяцінства. Чарговае пасяджэнне савета было прысвечана самаму, напэўна, злабадзённаму пытанню сучаснасці — выхаванню моладзі. Члены савета выказвалі сваю занепакоенасць тым, што маладыя людзі сёння, працуючы ў Інтэрнэце, аказваюцца зачастую сам-насам з беспрынцыпнасцю некаторых пастаўшчыкоў інтэрнэт-паслуг, што распаўсюджваюць парнаграфічны матэрыял, а таксама інфармацыю, змест якой накіраваны на прапаганду гвалту, жорсткасці і іншых дзеянняў, забароненых законам. Другое пытанне, якое абмяркоўвалася на пасяджэнні, было звязана з праблемамі сучаснага шоу-бізнесу. Бо нярэдкія выпадкі, калі нават самыя лепшыя канцэртныя пляцоўкі краіны прапануюцца для выступленняў выканаўцам і калектывам, рэпертуар якіх сумніўны з пункта гледжання маральнасці. Таксама члены савета заслухалі паведамленне пра дзейнасць пэўных грамадскіх арганізацый, якія, атрымаўшы допуск да работы са школьнікамі пад выглядам псіхалагічнай дапамогі падлеткам настройваюць маладых людзей супраць бацькоў. Інфармуючы школьнікаў пра небяспеку наркаманіі, алкагалізму, ранніх палавых сувязей, наадварот, выклікаюць цікаўнасць падлеткаў да небяспечнага і амаральнага ладу жыцця. На савеце было вырашана падрыхтаваць шэраг зваротаў і лістоў да афіцыйных асоб і адпаведных дзяржаўных структур, каб звярнуць увагу на закранутыя праблемы.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

## Зварот Грамадскага савета па маральнасці ў Беларусі да IV Усебеларускага народнага сходу

У адрас IV Усебеларускага народнага сходу ў ліку іншых паступіў Зварот Грамадскага савета па маральнасці ў Беларусі.

Паважаныя дэлегаты і госці IV Усебеларускага народнага сходу!

Грамадскі савет па маральнасці ў Беларусі вiншуе Усебеларускі народны сход, які вось ужо ў чацвёрты раз праводзіцца дзеля таго, каб абмеркаваць самыя важныя пытанні жыцця беларускага грамадства і вылучыць шляхі далейшага развіцця краіны.

Такія прадстаўнічыя форумы, што ладзяцца ў Беларусі, бяруць пачатак свой ад спаконвечных славянскіх народных веча.

Члены Грамадскага савета па маральнасці, вітаючы паступальнае развіццё беларускага грамадства і ўмацаванне міжнацыянальнай і міжрэлігійнай згоды, што дае новы імпульс развіццю нашай Радзімы, падкрэсліваюць неабходнасць будаваць асновы палітычнага, эканамічнага і культурнага жыцця на традыцыйных маральных асновах.

Дзяржава сёння асэнсоўвае актуальнасць духоўнага аздараўлення грамадства, якое з адабрэннем сустрэла стварэнне Грамадскага савета па маральнасці ў Беларусі.

У склад Грамадскага савета па маральнасці, акрамя многіх прадстаўнікоў інтэлігенцыі, у тым ліку і навукоўцаў, выкладчыкаў, парламентарыяў, кіраўнікоў вышэйшых навучальных устаноў, медыцыны, спорту і іншых сфер, уваходзяць главы традыцыйных веравызнанняў Беларусі: праваслаўнага, каталіцкага, лютэранскага, іудзейскага і мусульманскага. І сам факт таго, што ўсе мы збіраемся за адным сталом дзеля абмеркавання важных пытанняў, служыць пацвярджэннем рэлігійнага і свецкага ўзаемаразумення, цярпімасці і супрацоўніцтва, якія існуюць у духоўнай прасторы нашай краіны. Дзяржава падтрымлівае міжканфесійны і міжрэлігійны мір, выступае партнёрам традыцыйных рэлігійных аб'яднанняў у справе ўмацавання маральнага здароўя беларускага народа.

Немалая ўвага ў Беларусі надаецца выхаванню пакалення, якое падрастае. Любоў да сваёй радзімы, да яе гісторыі, святынь, культуры з'яўляецца адной з высокіх праяў духоўнага пачатку ў чалавеку.

Узводзяцца храмы і іншыя традыцыйныя культавыя аб'екты, бальніцы, школы, адраджаюцца гістарычныя помнікі, ушаноўваюцца героі, што абаранялі свабоду Айчыны, заахвочваюцца добрыя справы нашых сучаснікаў.

Фундаментальнымі каштоўнасцямі для любога грамадства з'яўляюцца грамадскі мір і стабільнае паступальнае развіццё на аснове маральных каштоўнасцей. Варта прызнаць, што гэтыя дасягненні і характарызуюць развіццё беларускай дзяржавы. Менавіта мір, стабільнасць і маральныя базісныя каштоўнасці служаць галоўнай умовай дабрабыту ўсіх сфер жыцця. Мы выступаем за захаванне і развіццё гэтых асноўных тэндэнцый умацавання беларускай дзяржаўнасці.

Выражаем упэўненасць у тым, што дзяржава і надалей будзе ствараць спрыяльныя ўмовы для адраджэння культуры, маральнасці і ўзаемаразумення.

Звяртаючыся да дэлегатаў Усебеларускага народнага сходу, Грамадскі савет па маральнасці заклікае ўдзяліць асаблівую ўвагу пытанням маральнага аздараўлення грамадства, умацаванню сям'і, развіццю навукі, культуры, літаратуры і адлюстраваць іх у праграмных дакументах, якія будуць прымацца на форуме.

Грамадскі савет па маральнасці ў Беларусі выражае ўсім удзельнікам IV Усебеларускага народнага сходу шчырыя пажаданні паспяховай і плённай працы на дабро роднай Беларусі!

Чаргінец М. І., Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі — Старшыня Грамадскага савета па маральнасці; Высокапраасвяшчэнны Філарэт, Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі; Высокапраасвяшчэнны архіепіскап Тадэвуш Кандрусевіч, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскай архіепархіі; Меерсон В. Е, Епіскап Рэспубліканскага рэлігійнага аб'яднання "Самастойная Евангелічна-лютэранская царква ў Рэспубліцы Беларусь"; Малінкін В. Н., Старшыня Аб'яднання іудзейскіх рэлігійных абшчын у Рэспубліцы Беларусь; Шабановіч А.-Б. Ю., Старшыня (муфтый) мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь; Новікаў А. М., намеснік Старшыні камісіі Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, старшыня Рэспубліканскага савета ветэранаў; Лучанок І. М., народны артыст СССР; Ціхановіч А. Р., народны артыст Беларусі; Паплаўская Я. К., народная артыстка Беларусі; Захарэвіч М. Г., народная артыстка Беларусі; Высоцкі М. С., акадэмік НАН; Стражаў В. І., Старшыня Беларускага таварыства "Веды"; Карлюкевіч А. М., дырэктар РВУ "Літаратура і Мастацтва", лаўрэат прэміі "За духоўнае адраджэнне"; Гніламёдаў У. В., акадэмік НАН Беларусі; Мядзведзь А. В., трохкратны Алімпійскі чэмпіён, сямікратны чэмпіён свету, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь; Праўдзін В. А., член Прэзідыума Саюза пісьменнікаў Беларусі; Марчук Г. В., сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі; Чарота І. А., доктар філалагічных навук, прафесар; Ляўшун Л. В., кандыдат філалагічных навук; Рассадзін С. М., доктар гістарычных навук, прафесар; Сушчэвіч В. В., кандыдат медыцынскіх навук; Дэйка С. А., начальнік інфармацыйна-аналітычнага ўпраўлення Нацыянальнага інстытута адукацыі; Драбышэўская Н. А., дзіцячы псіхолаг; Алешка А. І., рэферэнт Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі, загадчык юрыдычнай службы БПЦ, намеснік Старшыні, сакратар Грамадскага савета па маральнасці; Пашкоў Г. П., першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь; Мятліцкі М. М., галоўны рэдактар часопіса "Полымя", лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь; Пазнякоў М. П., старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі і іншыя.

## Літ-абсягі

Асоба У. Караткевіча прываблівала даследчыкаў яшчэ пры яго жыцці. Пасля смерці Уладзіміра Сямёнавіча прайшло ўжо больш як чвэрць стагоддзя. Між тым бібліятэка караткевічазнаўцаў дагэтуль змяшчаецца на адной кніжнай паліцы. Таму кожная кніга з'яўляецца неацэнным скарбам і ўнёскам у вывучэнне яго творчай біяграфіі.

Імёны даследчыкаў Адама Мальдзіса і Анатоля Вераб'я нездарма лічацца найбольш аўтарытэтнымі ў гэтай галіне. Акадэмічныя вучоныя, яны падышлі да разгляду дзейнасці творцы з двух супрацьлеглых бакоў. Плёнам працы Адама Іосіфавіча стала "Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча", выдадзенае ў 1990 годзе "Мастацкай літаратурай". Змест выдання хаваўся ў падзагалоўку, які меў назву "Партрэт пісьменніка і чалавека". А. Мальдзіс паказаў свайго героя праз прызму чытацкага і сяброўскага ўспрымання, змясціў не толькі надзвычай каштоўную інфармацыю, але і прывёў шэраг легенд, што зрабіла кнігу літаратурным бестселерам. "Жыцце і ўзнясенне…" даўно стала бібліяграфічнай рэдкасцю. Таму яго перавыданне, якое ажыццявіла "Літаратура і Мастацтва", было цалкам лагічным і напрошвалася досыць даўно.

# Свет мяне паўторыць...

**Мерапрыемствы, прысвечаныя 80-гадоваму юбілею з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча, працягваюцца. У мінскай кнігарні "Кніжны салон" прайшла прэзентацыя выданняў пра пісьменніка, якія ўбачылі свет у рэдакцыйна-выдавецкай установе "Літаратура і Мастацтва".**

Адзін з найбольш аўтарытэтных прадстаўнікоў літаратуразнаўчага акадэмізму, аўтар трох манаграфій Анатоль Верабей робіць акцэнт не на біяграфіі Караткевіча, а на грунтоўным аналізе яго твораў. Свае пошукі ён працягнуў у зборніку "Уладзімір Караткевіч: вядомы і невядомы", што таксама выйшаў у "Літаратуры і Мастацтве". Першы раздзел склаў твор Алега Лойкі "Уладзімір Караткевіч, або Паэма Гарсія Лойкі". Другі заснаваны на ўзаемаадносінах пісьменніка з Нінай Молевай. Трэці змяшчае водгаласы пра Караткевіча ад пісьменнікаў-суайчыннікаў і ад творцаў з іншых краін.

Гаворка пра гэтыя выданні прывяла на прэзентацыю сяброў Уладзіміра Сямёнавіча і прыхільнікаў яго творчасці. Гасцей "Кніжнага салона" чакалі два сюрпрызы, адмыслова падрыхтаваныя пісьменнікам Сяргеем Панізнікам: выстава пра Караткевіча, а таксама відэаэкран. На ім дэманстраваліся фотаздымкі творцы, зробленыя Сяргеем Сцяпанавічам. Сваімі ўспамінамі пра Караткевіча, а таксама думкамі пра яго кнігі з прысутнымі падзяліліся пісьменнікі Анатоль Бутэвіч, Алег Ждан, Юрый Сапажкоў, дыпламат і даследчык Уладзімір Шчасны.

Сімвалічна, што выступоўцы не збіраліся спыняцца на дасягнутым, а ўжо гаварылі пра будучыя выданні. Даследчык Пятро Жаўняровіч звярнуў увагу на праблемы поўнага выдання спадчыны пісьменніка. А дырэктар РВУ "Літаратура і Мастацтва" Алесь Карлюкевіч расказаў пра план 6-томнага выдання твораў пісьменніка на рускай мове. Калісьці сам Уладзімір Сямёнавіч пісаў: "Свет шчодры. // Свет мяне паўторыць... // Ну, а не свет, // дык Беларусь. // Мне — досыць…". Думаецца, надышоў час, каб пра Караткевіча даведаўся цэлы свет.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ



На здымку: падчас прэзентацыі Сяргей Панізнік распавядае пра свае сустрэчы з У. Караткевічам.

Фота Кастуся Дробава

## Арт-лінія

У XX Міжнародным конкурсе баяністаў-акардэаністаў "Класіка і вар'етэ" ўдзельнічала больш як дзевяноста выканаўцаў у розных намінацыях. Ён праходзіў у адзін тур, што з'явілася цікавай прынадай для таленавітай моладзі.

Для музыкантаў, якія вядуць актыўную канцэртную дзейнасць, быў арганізаваны асобны конкурс канцэртантаў акардэаністаў-баяністаў "Прэмія горада Ланчыяна". Праходзіў ён у тры туры, удзел у ім узялі больш як дваццаць выканаўцаў. Праграма конкурсу ўвогуле класічная, але былі і абавязковыя адмысловыя патрабаванні: да выступленняў у трэцім туры далучыўся аркестр рускіх народных інструментаў. Для пераможцаў конкурсу "Прэмія горада Ланчыяна" было ўстаноўлена 5 лаўрэацкіх дыпломаў з аднолькавымі па статусе прызавымі кубкамі-трафеямі.

Спецыяльнымі гасцямі Сусветнага фестывалю сталі Дзяржаўны аркестр народных інструментаў Рэспублікі Татарстан, вядомы сваёй яркай шматграннай музычнай дзейнасцю, а таксама знакаміты акардэаніст Галівуда Франк Марока. Вячэрнія канцэрты ўразілі публіку і выклікалі незабыўныя пачуцці ў сэрцах слухачоў. Кацярыне Тарас — лаўрэату і стыпендыяту спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, пераможцы шматлікіх рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў, і гэтым разам удалося прадэманстраваць свой высокі прафесіяналізм і ў сур'ёзных музычных выступленнях заваяваць два прызавыя месцы — трэцяе на конкурсе "Класіка і вар'етэ" і пятае — "Прэмія горада Ланчыяна".

# Конкурсныя «лаўры» з Ланчыяна

**У межах Сусветнага фестывалю фісгармонікі ў горадзе Ланчыяна (Італія) за адзін тыдзень прайшлі тры музычныя спаборніцтвы: Першы Міжнародны конкурс гарманістаў, XX Міжнародны конкурс баяністаў-акардэаністаў "Класіка і вар'етэ" і XII Міжнародны конкурс канцэртантаў акардэаністаў-баяністаў "Прэмія горада Ланчыяна". Выканаўцы з Аўстрыі, Германіі, Беларусі, Казахстана, Кітая, Латвіі, Літвы, Малдовы, Фінляндыі, Партугаліі, Расіі, Сербіі, Украіны, Швецыі і іншых краін узялі ўдзел у гэтым грандыёзным спаборніцтве, якое працягвалася тыдзень і пераўрасло ў сапраўдны яскравы, запамінальны Фэст Акардэона. Міжнароднае журы складалася з 35 знакамітых музычных дзеячаў: баяністаў і акардэаністаў, дырыжораў, піяністаў, скрыпачоў.**



Не сумняваюся, што наступныя конкурсы, у якіх возьме ўдзел Кацярына Тарас, будуць для яе таксама ўдалымі. І яшчэ не раз на музычных форумах свету будзе гучаць меладычны баян нашай таленавітай землячкі.

Ірына АКУЛОВІЧ

На здымку: (другая справа) лаўрэат міжнародных конкурсаў Кацярына Тарас.

## Повязі



Размешчаны ў цэнтры еўразійскага кантынента, а менавіта — у Цэнтральнаазіяцкім рэгіёне, Казахстан дэманструе сапраўднае багацце ландшафтаў: горы і стэпы, азёры і пустыні, лясы і паплавы. Адна краіна быццам увабрала ў сябе ўсю палітру зямных фарбаў, так што кожны яе госць абавязкова знойдзе тут нешта роднае і блізкае, што ёсць у яго на Радзіме. Насамрэч уманцавана сяброўства спрыяе і само геапалітычнае становішча Казахстана. Пры канцы 2010 года менавіта тут адбыўся саміт кіраўнікоў краін АБСЕ. Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Рэспублікі Казахстан у Рэспубліцы Беларусь Анатоль Смірноў знайшоў гэта заканамерным: вытокі гісторыі і шматграннасць казахскага народа вынікаюць з абавязковага прынцыпу добрасуседства.

І падмуркам сустрэчы з дыпламатычнымі, навуковымі коламі і творчай інтэлігенцыяй Беларусі таксама стала багатая духоўная ды культурная спадчына народа. У Доме дружбы, дырэктар якога — Ніна Іванова, Казахстан ладкуе не першае мерапрыемства. Раней тут адбылася літаратурная вечарына, прысвечаная творчасці заснавальніка казахскай літаратуры Абая. Добрыя стасункі, наладжаныя паміж літаратарамі, апошнім часам значна актывізаваліся. Прыкладам, двойчы выходзілі ў казахскім часопісе "Простор" выпускі, прысвечаныя сучаснай беларускай літаратуры, друкаваліся творы Івана Чароты, Алеся Бадака, Міхася Пазнякова ды іншых. Пераклады твораў казахскіх літаратараў змяшчалі нашы літаратурныя часопісы. Так, беларускі пераклад вершаў Абая змясціў на сваіх старонках часопіс "Полымя". Між іншым, як паведаміў на сустрэчы галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Мікола Мятліцкі, ім перакладзена каля ста вершаў Абая, і магчыма, у хуткім часе яны выйдуць асобнай кнігай.

Кола беларускіх сяброў гэтай краіны з кожным годам пашыраецца. Народная артыстка Наталля Гайда, якая некаторы час жыла ў гэтай краіне, пасля слоў вітання праспявала гімн Казахстана — на казахскай мове. Мастацкую частку вечарыны працягнулі народны артыст Беларусі кампазітар Эдуард Зарыцкі, казахская піяністка Жанія Аўбакірава. Вызначаецца сваімі міралюбнымі кірункамі і сумесная праца ў сусветнай інфармацыйнай прасторы. На гэта ды на традыцыю арганізацыі міжнародных кніжных выстаў звярнуў увагу намеснік міністра інфармацыі Беларусі Аляксандр Слабадчук. У сваю чаргу, намеснік міністра культуры Беларусі Тадэвуш Стружэцкі падкрэсліў сяброўскія стасункі паміж установамі культуры. Агульныя падыходы бачыліся і ў пазіцыі дзяржаў у адносінах да навукі, адукацыі. Удзельнікі вечарыны такім чынам падвялі вынікі супрацоўніцтва ў 2010 годзе, але і ў 2011-м, хочацца думаць, у стасунках паміж нашымі краінамі найперш будзе валадарыць самая міралюбная і дыпламатычная мова — мова культуры, літаратуры і мастацтва.

# Беларусь-Казахстан. Разам

**16 снежня Рэспубліка Казахстан святкуе Дзень незалежнасці. З гэтай нагоды тыдзень таму ў Доме Дружбы адбылася арганізаваная Пасольствам Рэспублікі Казахстан у Рэспубліцы Беларусь вечарына-сустрэча з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі, навуковых колаў Беларусі. У мерапрыемстве бралі ўдзел таксама прадстаўнікі дэпутацкага корпуса нашай краіны і дзяржаўных органаў ды ўстаноў.**

Ірына ТУЛУПАВА

На здымку: Мікола Мятліцкі чытае пераклады вершаў Абая.

## З-пад пяра

У Нацыянальным дзіцячым цэнтры "Зубраня" прайшла творчая змена "Прэс-інфо". На працягу трох тыдняў вучні, якія займаюцца ў школьных клубах юных журналістаў, разам адпачывалі, працавалі, вучыліся, ствараплі новыя цікавыя праекты. Дзеці пісалі матэрыялы для газеты "Свежы вецер", што выпускаюць у "Зубраняці". Тэмамі публікацый былі мерапрыемствы, якія кожны дзень праходзілі ў лагеры. Фотакарэспандэнты і мастакі дапаўнялі артыкулы сваімі работамі. Штодня з вялікай колькасці юных журналістаў выбіралі "карэспандэнта дня". Літаратурную старонку ў газеце рыхтавалі юныя паэты. Лепшыя творы будуць надрукаваны ў зборніку, які плануецца да выхаду ў лагеры "Зубраня". Школьнікі мелі магчымасць паспрабаваць свае сілы і ў радыёжурналістыцы. Дзеці рыхтавалі перадачы, у якіх расказвалі пра цікавыя падзеі, рабілі анонсы будучых мерапрыемстваў. Героямі праграм станавіліся адметныя асобы творчай змены.

Кацярына ХАДАСЕВІЧ

Літаратурнае аб'яднанне "Сувкецце", членамі якога з'яўляюцца лідскія аўтары, звыкліся ўжо да сустрэч, падчас якіх абмяркоўваюцца новыя кнігі, выдадзеныя землякамі. Такія сустрэчы заўжды прыносяць карысць. Бо кожнаму літаратару цікава пачуць меркаванне аднадумцаў і калег наконт уласнай творчасці. На гэты раз "Суквецце" запрасіла ўсіх жадаючых у Лідскую раённую бібліятэку імя Я. Купалы на прэзентацыю адразу двух паэтычных зборнікаў — "Ідзі і вяртайся" Івана Гушчынскага і "Птица из Персидского залива" Віктара Бачарова. Аўтары чыталі свае новыя вершы, і зацікаўленыя слухачы выказвалі заўвагі, пажаданні, ухвалу. Наступную сустрэчу члены аб'яднання "Суквецце" вырашылі прысвяціць кнігам настаўніка-краязнаўцы з вёскі Сялец Міколы Дзікевіча "Дзітрыкі" і "Сялец".

Алесь ЖАЛКОЎСКІ

У Баранавічах у межах міжнароднага супрацоўніцтва быў праведзены Дзень венесуэльскай культуры, прымеркаваны да 200-годдзя незалежнасці Балівarскай рэспублікі Венесуэла. У гэты дзень Баранавічы з культурным візітам наведаў Першы сакратар пасольства Баліварскай рэспублікі Венесуэла ў Рэспубліцы Беларусь, каардынатар Лацінаамерыканскага культурнага цэнтра імя Сімона Балівара Херардо Эстрада Марцінас. Праграма, прывезеная венесуэльцамі, была насычанай і разнастайнай. Яна ўключала два канцэрты музычнай групы "Алі Трымера" ў канцэртнай зале першай музычнай школы, адкрыццё ў выставачнай зале Баранавіцкага краязнаўчага музея выставы "Фарбы джунгляў", дэманстрацыю ў кінатэатры "Кастрычнік" мастацкага фільма "Брат" — уладальніка Гран-пры XXXII Маскоўскага міжнароднага кінафестывалю.

Вольга ЖЫГАР

У галерэі "Лабірынт" Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адбылося ўрачыстае адкрыццё выстаўкі і прэзентацыя электроннага выдання "Спадчына акадэміка Я. Ф. Карскага: да 150-годдзя з дня нараджэння". Выстаўка з'яўляецца сумесным праектам Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, Санкт-Пецярбургскага філіяла Архіва Расійскай акадэміі навук. Да адкрыцця выстаўкі быў прымеркаваны і "круглы стол", прысвечаны праблемам вывучэння навуковай спадчыны Яўхіма Карскага. Яго арганізатарамі выступілі Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт і Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь.

Чэслава ПАЛУЯН

# Тэхніка рэальнага кіно

Час змушае гаварыць пра кіно. І не толькі таму, што нядаўна адбыўся міжнародны кінафестываль "Лістапад": заўзятаму гледачу-кінаману, ды і выпадковаму чалавеку вельмі ж дарэчы даведацца пра цікавыя фільмы, знятыя апошнімі гадамі, самыя новыя. Дыялог пачынаецца і таму яшчэ, што зацемненымі доўгімі вечарамі ўвага скіроўваецца на мастацтва, адным з элементаў якога з'яўляецца-такі кіно.
На старонках "ЛіМа" гаворка такая пачалася яшчэ ў кастрычніку — у артыкуле "Нататкі староннягa". Яго аўтар — Сяргей Трахімёнак — выказаў досыць палемічныя думкі пра тое, як развіваецца (і ці развіваецца) беларускі кінематограф. Сёння наш госць — творчая асоба, чалавек-практык, кінарэжысёр Алена ТУРАВА.



—Алена, у творчага чалавека, які заўсёды ў пошуку, найперш хочацца запытацца: над чым вы сёння працуеце?

— Спрабую завяршыць казку "Рыжык". Такая рабочая назва была. А цяпер казка называецца "Рыжык у Залюстрэччы". Гэта фэнтэзі, казка, адаптаваная да сённяшніх інтарэсаў дзяцей. Зроблена камп'ютарная графіка. Апошнімі месяцамі працуем над колеракарэкцыроўкай і зводзім усе фанаграмы — робіцца перазапіс. Спадзяёмся, што зімою фільм будзе закончаны цалкам, а прэм'ера залежыць ад таго, як яе заплануе наш рэкламна-прадзюсарскі аддзел. Альбо ў канцы зімы, альбо на пачатку вясны.

— "Навагоднія прыгоды ў ліпені", новая чароўная казка "Рыжык". Кажуць, Беларусь моцная дзіцячым кіно. Але і ў ім — асаблівасці…

— Я лічу, што было ў нас не проста моцнае дзіцячае кіно, а гэта быў асаблівы брэнд кінастудыі. Не сакрэт, "Беларусьфільм" называюць "Партызанфільмам", тым не менш маё пакаленне вырасла на казках і знакавых фільмах: "Прыгоды Бураціна", "Корцік", "Па сакрэту ўсяму свету" — мы на іх сталелі! Гэтыя фільмы глядзела ўся вялікая краіна Савецкі Саюз. Пасля быў досыць складаны для ўсяго кіно перыяд, і неяк так сталася, што дзіцячае кіно ў нас рабіць перасталі. Рабіліся стужкі пра дзяцей, але не для дзяцей. Розніца значная!

А я дваццаць гадоў працавала "ў мульціках", з дзіцячай аўдыторыяй сутыкалася часта. У кінатэатрах прадстаўлялі свае праграмы і бачылі, якая агромністая розніца паміж дзіцячым і дарослым гледачом. Дарослы, нават калі яму нешта не падабаецца, ветліва вытрымае сеанс, у горшым выпадку — выйдзе з залы. З дзецьмі такое не праходзіць. Яны будуць бегаць, гаманіць, але да таго, што ім не падабаецца, інтарэсу не праявяць. Можна колькі заўгодна гаварыць, што гэта карыснае кіно, але прымусіць іх зацікавіцца нецікавым немагчыма. Калі "не зачапіла" — усё, катастрофа!

— Нейкі перыяд, калі хлынуў паток кіно з Захаду, як жа прагна мы глядзелі замежныя фільмы! У тым ліку і мультыплікацыю. "Кароль Леў", да прыкладу. Глядзелі і захапляліся, наколькі па-сучаснаму ён зроблены. А ўбачыла фрагменты "Рыжыка" — і зразумела: мы таксама можам!

— Так, і мы нанова вучыліся. Бо практычна ўзяліся за тое, чаго ў нас на той час не рабілі, і лічылі, што ў нас немагчыма, няма каму рабіць. А на самай справе існавала мяжа "блажэннага невядзення", мы не ведалі, з якім пластом непрабітага шляху сутыкнёмся. Мы як быццам знаходзіліся ў першабытным перыядзе. Атрымлівалася, што старыя казкі, якія рабілі Птушко, Роу, ствараліся па сваіх законах — чараўніцтва і цудаў на экране. А калі мы пачалі працаваць, нават цэху камбініраваных здымак, пры дапамозе якога некалі Нячаеў ствараў кіно, не было. На змену яму нічога не прыйшло. Ніякіх камп'ютарных знаходак не бачылася. Ведалі, што можна нешта зрабіць, але трэба званіць альбо ў Маскву, альбо ў Прагу, альбо ў Лондан. Як заказвала гэта група, якая працавала над фільмам "Падзенне ўверх". Але калі ты атрымліваеш здалёк гатовы матэрыял, няма магчымасці нешта паправіць, змяніць. А пра тое, што гэта можна зрабіць у нас, размова не ішла. Рабіць фільмы з жалудоў і пластыліну ўжо сорамна. Я не кажу, што мы можам пры нашым сціплым бюджэце, напэўна, дагнаць і абагнаць Галівуд, гэтага і не трэба, але карыстацца сучаснымі тэхналогіямі варта.

— Вы кажаце: "Мы распачыналі". Гэта хто?

— Гэта група фільма "Навагоднія прыгоды ў ліпені". Была ідэя Міністэрства культуры зрабіць казку для новага пакалення. З таго часу, калі я была дзіцём, ужо два пакаленні кіно змяніліся. А ў пачатку 2000-х адкрылася рэзідэнцыя Дзеда Мароза ў Белавежскай пушчы, хацелася зрабіць казку пра тое, што робіць Дзед Мароз летам. Такая была заяўка. А з-за таго, што я займалася і шоу-праграмамі на тэлебачанні, мне як сцэнарысту даручылі гэтую справу. Прыдумаўся коміксны варыянт. Дзед Мароз рыхтуе свята ўвесь год, а з нейкай планеты ў яго камп'ютар трапляе

На жаль, наша кіно сёння не акупаецца. Гэта сумна. Я была на сустрэчы ў "Беларусьфільме" з Прэзідэнтам краіны Аляксандрам Лукашэнкам. Для мяне была нечаканаю інфармацыя, што ў нас 132 кінатэатры, і каб фільм акупіў сябе, ён павінен ісці ва ўсіх кінатэатрах краіны з поўным аншлагам 35 гадоў. Ніводная карціна гэтага не пацягне. На знешніх рынках таксама патрэбны продаж. Але цяжка прабіць новую нішу. Кіно ў нас стратнае.

сусветны вірус, які разбурае святы — Гала-Вірус. Ён хоча заняць месца Дзеда Мароза, стаць на Зямлі галоўным. Як гэта паказаць? Можна было выкарыстаць нейкія сучасныя ігравыя моманты. На той час у мяне быў толькі адзін аргумент: я мела справу з анімацыяй, і тое, што не змаглі б зрабіць, можна было дамаляваць у студыі. Ідэя спрацавала. У працэсе працы выявілася, што ўсё ж не хапае магчымасцей і пажаданаю тут будзе падтрымка камп'ютарных тэхналогій. Пачалі высвятляць, як гэта робіцца. Ездзілі ў Маскву, Санкт-Пецярбург, пыталіся…

— Яшчэ Пушкін зазначаў: натхненне не прадаецца, але рукапіс можна прадаць. Што ў наш час прасцей прадаць: напісаны сцэнарый альбо створаны паводле сцэнарыя фільм?

— На жаль, наша кіно сёння не акупаецца. Гэта сумна. Я была на сустрэчы на "Беларусьфільме" з Прэзідэнтам краіны Аляксандрам Лукашэнкам. Для мяне з'явілася нечаканаю інфармацыя, што ў нас 132 кінатэатры, і каб фільм акупіў сябе, ён павінен ісці ва ўсіх кінатэатрах краіны з поўным аншлагам 35 гадоў. Ніводная карціна гэтага не пацягне. На знешніх рынках таксама патрэбны продаж. Але цяжка прабіць новую нішу. Кіно ў нас стратнае.

А наконт продажу сцэнарыя… У нас не плацяць за сцэнарый да таго часу, пакуль фільм не пройдзе хаця б пачатковы падрыхтоўчы перыяд. Сцэнарыстаў дастаткова шмат, і прадаць столькі сцэнарыяў, каб зарабіць стабільны кавалак хлеба, немагчыма. Грошы тут невялікія. І пра рэжысёраў таксама не магу сказаць, што гэта забяспечаныя людзі.

— Беларускія фільмы называюць літаратурацэнтрычнымі. Гэта значыць, з добрым сцэнарыем. Можа, цэнтр цяпер некуды перамясціўся?

— Згодная, вельмі важна, каб быў добры сцэнарый. Але ва ўсякім разе для дзіцячага кіно ў нас у запасе такіх няма. Бясспрэчна, праводзяцца кожны год конкурсы, хтосьці ў іх выйграе, але яркіх сцэнарных работ пакуль што не бачна. Хаця… далучыць да працы выбітнога сцэнарыста асаблівых умоў таксама няма. Зноў жа, павінны адбыцца рэдакцыйны савет, мастацкі савет, экспертсавет, толькі пасля гэтага фільм паводле сцэнарыя, магчыма, запусцяць, ён дойдзе да падрыхтоўчага перыяду, і чалавек за літаратурную аснову нешта атрымае.

А калі ёсць рызыка застацца без працы, бяруцца за тое, што прапануюць. Хаця ў некага атрымліваецца лепш дэтэктыў, іншаму жаночая тэма блізкая. І не важна, што хацеў бы зняць пра вайну, а яму прапануюць зусім не тое.

— Мастацтва кіно — гэта не толькі вытворчасць, але і асоба сцэнарыста, рэжысёра. У нас склалася свая, сучасная школа сцэнарыстаў, рэжысёраў?

— Гледзячы што называць школай. Альбо акадэмію, дзе рыхтуюць кадры, альбо гэта школа ў шырокім сэнсе слова. Прыкладам, была выдатная школа мэтраў нашай кінематаграфіі, да якой належыць і Віктар Тураў, мой бацька. Нікіфараў, Рубінчык, Пташук былі выбітныя майстры! Іншая справа, што цяпер памяняліся пакаленні. Многія рэчы, якія раней праходзілі на "ўра", не прымаюцца. Ёсць аб'ектыўныя законы, законы пракату. І цяпер, як мне падаецца, ідзе пошук фармату. "Масакра" вось выйшла на экраны — беларускі містычны трылер. Але іншая справа — як прымае гэта глядач, як разумее. І справа нават не ў размаху бюджэту. Каб зрабіць вы-

Што ёсць нацыянальнае кіно? На гэта пытанне таксама неадназначна спрабавалі даць адказ. Гэта знятае на беларускай мове, беларускай глебе, альбо з нацыянальнымі беларускімі праблемамі — а чым яны адрозніваюцца ад іншых нацыянальных праблем? Усе людзі свету жывуць падобнымі праблемамі: каханне, сям'я, дабро і зло. Вылучыць, што тут наша нацыянальнае, цяжка. Але я думаю, беларускае кіно — гэта кіно, створанае беларусамі.

сокабюджэтнае кіно і спадзявацца, што яно атрымаецца, таксама многае трэба. Галівуд прадуцыруе значную колькасць карцін, у тым ліку і высокабюджэтных, але ў іх вялікая сума ідзе на рэкламу. І ўсё роўна "выстрэльвае" невялікі працэнт работ. Пра што ж тады размова, калі наша кінастудыя можа "пацягнуць" адзін высокабюджэтны фільм у некалькі год? І не акупаемся, і не заяўляем пра сябе? А запрашаць замежных рэжысёраў ды акцёраў — ці будзе гэта наша кіно?

— Падаецца, цяпер у аднолькавых незайздросных умовах знаходзяцца паэзія, эстрада і кінематограф. Але калі кнігавыданнем у нас займаюцца каля 800 суб'ектаў гаспадарання, эстрада мае 75 працэнтаў эфіру на радыёканалах, то што мае беларускі кінематограф? І што трэба, каб пра яго стала вядома шырокаму колу нашага насельніцтва?

— На жаль, цяпер яшчэ ў вытворчасць запускаюцца гісторыі, якія наўрад ці будуць запатрабаваныя. Трэба шукаць нешта сваё — за кошт нестандартнага сюжэта, ігры акцёраў. Верагодна, ёсць шляхі, і іх неабходна шукаць. Трэба, каб наша кіно адрознівалася. Калі пра фільм няма чаго сказаць, ён забываецца. Ідзе звычайны баласт. Тут і прадзюсарскі момант важны. У ідэале прадзюсар — творчы чалавек. Ён мае нейкае чуццё сюжэта і нават таго, ці зможа ён фільм пасля прадаць. Гэта чалавек, які за нешта адказвае! Але прадзюсар мае права запрасіць рэжысёра з боку. Не Спілберга, але кагосьці, да прыкладу, з Польшчы. Нашы ж застаюцца незапатрабаванымі.

— І ў канчатковым выніку сістэма прадзюсарства можа прывесці да таго, што наша кіно інтэгруецца ў еўрапейскае, сусветнае. А нацыянальнае — дзе?

— А што ёсць нацыянальнае кіно? На гэта пытанне таксама неадназначна спрабавалі даць адказ. Гэта знятае на беларускай мове, беларускай глебе альбо з нацыянальнымі беларускімі праблемамі — а чым яны адрозніваюцца ад іншых нацыянальных праблем? Усе людзі свету жывуць падобнымі праблемамі: каханне, сям'я, дабро і зло. Вылучыць, што тут наша нацыянальнае, цяжка. Але, я думаю, беларускае кіно — гэта кіно, створанае беларусамі. Гэта свае рэжысёры, акцёры. Могуць быць і запрошаныя, толькі яны не павінны дамінаваць.

— Сітуацыя, калі беларускія акцёры вымушаны саступаць галоўныя ролі ў айчынных стужках расійскім калегам, не новая. Маем спадзяванні на тое, што расійскія калегі ўздымуць беларускае кіно?

— Гэта праца на пастаяннага пакупніка. Наш рынак, зразумела, не ў стане пакрыць выдаткі. А трэба прадаць хаця б у блізкае замежжа. Там жа цікавасць выклікаюць свае імёны, прозвішчы. Калі ў кіно будуць толькі невядомыя нашы творцы — менш шанцаў яго прадаць.

— Сабекошт вытворчых паслуг "Беларусьфільма" намнога меншы, чым на кінастудыях у Расіі. І расіяне лічаць за лепшае здымаць кіно ў нас. Значыць, мы трымаем пляцоўку для суседзяў? І зусім не імкнёмся быць на ёй гаспадарамі?

— Мы калі працуем, то па адных цэнах. Расіянам паслугі прадаюцца даражэй, але ім усё роўна выходзіць танней, чым на радзіме. Я таксама сутыкалася з тым, што не хапала павільёнаў, таму што яны былі распісаны на некалькі карцін наперад. Здымалі ў іншых умовах. І там зарплаты зусім па-іншаму выглядаюць. Розніца як мінімум у дзесяць разоў. Мая дачка здымалася ў некалькіх расійскіх праектах, і я адчула розніцу ў адносінах унутры здымачнай групы. Усе працуюць!

— Гэта што да будняў кіно. Але ў яго ёсць і святы. Нядаўна скончыўся беларускі фестываль "Лістапад". Наколькі важныя падобныя форумы кіношнікаў? Што даюць яны практыкам — рэжысёрам, сцэнарыстам, акцёрам?

— Для мяне "Лістапад" вельмі важны, таму што ёсць магчымасць цягам кароткага часу ўбачыць лепшыя фільмы, знятыя на постсавецкай прасторы, у далёкім замежжы. Імкнуся хадзіць на такія прагляды. Падчас іх сустракаешся з калегамі, абмяркоўваеш толькі што пабачанае. Нейкі чарговы майстар-клас. Гэта інфармацыя, і яна важная. Я ўвогуле за ўсе фестывалі. Праца рэжысёра патрабуе шмат сіл, ніколі не ведаеш, адкуль прыйдзе праблема. Калі фільм запускаецца ў вытворчасць — толькі паспяваеш рашаць задачкі. І калі глядзіш нечы прадукт, назіраеш, як жа ўсё гэта рашалася іншай творчай групай. Уяўляю фізічна, як гэта было, як здымалася кожная сцэна. І калі дрэнна, то думаеш, як бы ты мог зрабіць лепш.

Гутарыла
Ірына ТУЛУПАВА

Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі — цэнтр беларускай філалагічнай навукі. Інстытут працуе над шэрагам цікавых і значных праектаў, аднак яго задачай з'яўляецца не толькі правядзенне тэарэтычных даследаванняў, але і навуковае забеспячэнне патрэб моўнай практыкі. Найважнейшым аспектам дзейнасці ўстановы з'яўляецца падрыхтоўка практычных дапаможнікаў і даведнікаў, якія ствараюць неабходную фактычную базу для пранікнення дзяржаўнай беларускай мовы ва ўсе сферы жыцця беларускага грамадства.
Пра дзейнасць інстытута распавядае дырэктар установы Аляксандр Лукашанец.

# Над чым працуе Інстытут мовы і літаратуры?

— Аляксандр Аляксандравіч, якімі праектамі займаецца сёння Інстытут мовы і літаратуры?

— Цяпер мы працуем над выкананнем Дзяржаўнай праграмы фундаментальных даследаванняў "Беларуская мова і літаратура". Калі спыніцца на мовазнаўстве, то трэба адзначыць, што інстытут працягвае працу над такімі доўгатэрміновымі праектамі, як гістарычны і этымалагічны слоўнікі беларускай мовы. Завяршэнне гэтых прац паставіць беларускую мову ў шэраг самых даследаваных славянскіх моў у плане вывучэння слоўнікавага складу мовы, гісторыі яе развіцця, сувязей з іншымі мовамі свету, найперш славянскімі. На сённяшні дзень выдадзены 30 выпускаў гістарычнага слоўніка (усяго плануецца каля 40 тамоў) і 12 тамоў этымалагічнага (усяго плануецца 16 тамоў) — прычым гэта будзе адзін з самых буйных этымалагічных слоўнікаў асобнай славянскай мовы. Выданне гістарычнага і этымалагічнага слоўнікаў беларускай мовы ўжо атрымала шырокі рэзананс у славянскім свеце, замежныя лінгвісты з цікавасцю сустракаюць выхад кожнага новага тома.

— Ці прымаюць беларускія мовазнаўцы ўдзел у міжнародных навуковых даследаваннях?

— Так, нашы спецыялісты ўдзельнічаюць у буйнейшым міжнародным славістычным праекце — стварэнні "Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа". Мэта праекта — зафіксаваць пашырэнне тых ці іншых моўных з'яў на ўсёй славянскай прасторы. Работа актыўна вядзецца на працягу многіх гадоў, і нашы навукоўцы рэгулярна ўдзельнічаюць у рабочых нарадах, дзе абмяркоўваюцца матэрыялы, падрыхтаваныя для выдання унікальных лінгвістычных прац — атласаў, у якіх паказваецца актуалізацыя асобных моўных з'яў у розных славянскіх мовах. Навуковыя здабыткі акадэмічных дыялектолагаў неадноійчы былі адзначаны вышэйшымі дзяржаўнымі ўзнагародамі (Дзяржаўнай прэміяй СССР у 1970 годзе і Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь у 2000 годзе за пяцітомны "Лексічны атлас беларускіх народных гаворак"). Сёння нам таксама важна захаваць для будучых пакаленняў багацце і непаўторнасць жывой беларускай народнай мовы.

— Чым яшчэ займаецца інстытут у галіне мовазнаўства?

— Значная ўвага надаецца даследаванню тэндэнцый развіцця сучаснай беларускай мовы, яе ўзаемасувязі і ўзаемадзеянню з іншымі мовамі свету. Займаемся мы і падрыхтоўкай прац, накіраваных на забеспячэнне патрэб моўнай практыкі. Супрацоўнікі нашага інстытута прымалі асноўны ўдзел у распрацоўцы Закона Рэспублікі Беларусь "Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі". За апошнія два гады была праведзена выключна вялікая работа па фактычным забеспячэнні ўвядзення ў дзеянне гэтага закона. Мы выдалі шэраг спецыяльных даведнікаў, падрыхтаваных у адпаведнасці з новымі правіламі беларускага правапісу — "Беларускі арфаграфічны слоўнік", "Руска-беларускі слоўнік для школьнікаў", прымалі ўдзел у працы над выданнямі, разлічанымі на школьнікаў.

— Мінула амаль тры месяцы з пачатку дзеяння Закона, і сёння, напэўна, ужо можна ацаніць, наколькі добра народ прызвычайваецца да змен…

— Ажыятаж вакол Закона ў пэўнай ступені з'яўляецца штучным і часта "правакуецца" сродкамі масавай інфармацыі, якія не заўсёды правільна і карэктна яго інтэрпрэтуюць. Новыя "Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" ўяўляюць сабой толькі новую рэдакцыю (!) "Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" 1959 года выдання. Захаваны асноўныя прынцыпы правапісу. Змены датычацца толькі дыяпазону дзеяння гэтых правіл і накіраваны галоўным чынам на зняшэнне колькасці выключэнняў, на нарматыўнае замацаванне таго, што ўжо атрымала пашырэнне ў пісьмовай практыцы.

Адной з асноўных праблем для навукоўцаў, якія працавалі над Законам, была праблема адаптацыі запазычанняў да фанетычнай сістэмы нашай мовы і асаблівасцей вымаўлення. Справа ў тым, што ў развіцці беларускай мовы апошніх дзесяцігоддзяў выявіліся дзве галоўныя тэндэнцыі: тэндэнцыя да інтэрнацыяналізацыі і тэндэнцыя да нацыяналізацыі — якія, у прынцыпе, характарызуюць развіццё ўсіх славянскіх моў на сучасным этапе.

У рэчышчы тэндэнцыі інтэрнацыяналізацыі назіраецца істотнае папаўненне нашага слоўніка актуальнымі запазычаннямі — перш за ўсё з англійскай мовы. Мы можам нават казаць пра англамоўную інтэрвенцыю, актуальную не толькі



для нас, але і для рускай мовы, для моў Еўропы. Задача лінгвістаў — нарматыўнае замацаванне правапісу гэтых запазычанняў у слоўніках, бо на Беларусі правапіс іншамоўных слоў заўсёды выклікаў праблемы.

З тэндэнцыяй да нацыяналізацыі звязана актуалізацыя ва ўжытку моўных сродкаў, уласцівых толькі беларускай мове. Гэтыя дзве тэндэнцыі, якія з'яўляюцца процілегла накіраванымі, паралельна праяўляюцца ў развіцці сістэмы нашай мовы, што выклікае патрэбу ў даследаванні сутнасці гэтых моўных з'яў і нарматыўным замацаванні інавацый, у тым ліку і ў плане правапісу.

— У 20-я гг. ХХ ст. беларускія навукоўцы імкнуліся пазбегнуць запазычанняў: спрабавалі ўводзіць новыя словы, стваралі калькі. Шмат якія неалагізмы "прыжыліся" ў мове. Ці робяць штосьці ў гэтым кірунку сучасныя моваведы?

— Безумоўна, моўнай інтэрвенцыі можна супрацьпаставіць пурызм. Але сама моўная практыка адбярэ тое, што ёй патрэбна, збыткоўнае ж заўсёды адкідваецца… Задача мовазнаўцаў — не стварыць новыя адзінкі, а ацэньваць і рэкамендаваць тое, што ўжо існуе. Наша функцыя — адбор слоў і замацаванне іх у пісьмовай практыцы.

— Шмат каго цешыць, што за апошнія гады шэраг камп'ютарных праграм ад "AutoCAD 2008" да супрацьвірусней праграмы "avast!" былі перакладзены на беларускую мову, з'явіўся электронны перакладчык "Белазар". Які ўдзел прымае інстытут у рэалізацыі такіх праектаў?

— Інстытут непасрэдна над гэтым пакуль не працуе, хаця нашы супрацоўнікі займаліся карэкціроўкай некаторых перакладчыцкіх сістэм. Ужо створаны асобныя электронныя базы даных, што дазваляе думаць пра больш маштабныя праекты ў гэтым кірунку. Увогуле, актуальным з'яўляецца аб'яднанне напрацавання раней у гэтай сферы, што створыць умовы для ажыццяўлення больш маштабных праектаў.

— Над якімі тэмамі ў галіне літаратуразнаўства працуе інстытут?

— Нашы навукоўцы вывучаюць развіццё беларускай літаратуры ў ХХ ст., даследуюць творчасць асобных пісьменнікаў і паэтаў, разглядаюць сучасныя тэндэнцыі развіцця літаратуры ў кантэксце сусветнага літаратурнага працэсу, выяўляюць асаблівасці мастацкага бачання нашай рэчаіснасці і яе адлюстраванне ў мастацкай творчасці. З задавальненнем хачу адзначыць, што ў інстытуце фарміруецца кола маладых навукоўцаў, якія, абапіраючыся на вопыт сваіх старэйшых калег, маюць арыгінальнае бачанне многіх сучасных актуальных праблем беларускага літаратуразнаўства і літаратурнага працэсу ў цэлым. Адна з важных задач акадэмічнага літаратуразнаўства — вывучэнне і папулярызацыя творчай спадчыны класікаў беларускай літаратуры. Таму мы працуем над выданнем збораў твораў найбольш знакамітых пісьменнікаў і паэтаў: Якуба Коласа, Івана Шамякіна, Максіма Танка, Івана Навуменкі. У гэтым сэнсе інстытут працуе на ўсведамленне значнасці нацыянальных каштоўнасцей — беларускай мовы і літаратуры. Вынікам мае быць стварэнне прывабнага іміджу нашай краіны ў сусветным супольніцтве, што таксама важна на сённяшнім этапе дзяржаўнага будаўніцтва.

— Наколькі за апошнія гады змяніўся стан беларускай мовы?

— Гледзячы што маецца на ўвазе — стан сістэмы беларускай мовы ці яе становішча ў грамадстве. Сістэма кожнай мовы развіваецца і ўдасканальваецца. Вельмі актуальнай лінгвістычнай праблемай сёння з'яўляецца, напрыклад, праблема варыянтнасці — асабліва на ўзроўні марфалогіі і граматыкі.

Увогуле трэба адзначыць, што беларуская мова з'яўляецца высокаразвітой літаратурнай мовай, якая можа паспяхова абслугоўваць усе сферы жыцця сучаснага беларускага грамадства. Але, на жаль, у многіх сферах ужытку яна выкарыстоўваецца недастаткова і прадстаўлена толькі сімвалічна. Асаблівасцю ж з'яўляецца тое, што, нягледзячы на абмежаванае выкарыстанне беларускай мовы ў справаводстве, дзяржаўным кіраванні, СМІ, сістэме адукацыі, яна пранікае сёння ў канфесійную сферу і сферу інтэрнэт-камунікацыі. А гэта сведчыць пра рэальную запатрабаванасць беларускай мовы як сродку зносін. Неабходным з'яўляецца рэалізацыя комплексу практычных мер, якія забяспечылі б выкарыстанне нашай мовы ва ўсіх сферах афіцыйнага ўжытку, як гэтага патрабуе яе статус дзяржаўнай мовы Рэспублікі Беларусь і мовы тытульнай нацыі.

— Якія захады ў гэтым кірунку робіць Інстытут мовы і літаратуры?

— Нашы навукоўцы непасрэдна ўдзельнічаюць у навучальным працэсе: выкладаюць беларускую мову ў ВНУ, з'яўляюцца членамі экзаменацыйных камісій. Веданне рэальнага стану і запатрабаванасці беларускай мовы дазваляе вызначыць прыярытэты навуковых даследаванняў.

— На вашу думку, што трэба зрабіць, каб беларусы звярнуліся да роднай мовы?

— Для гэтага патрэбны як пэўныя адміністратыўныя крокі, так і жаданне самых носьбітаў мовы. Таму надзвычай актуальнай праблемай з'яўляецца фарміраванне ўсведамлення каштоўнасці нацыянальнай мовы як важнейшага сродку захавання нацыянальнай адметнасці ў сучасным дынамічным шматкультурным і шматмоўным свеце.

Неабходна стварэнне беларускамоўнага асяроддзя шляхам непасрэднай маўленчай дзейнасці, пашырэння выкарыстання беларускай мовы ў сродках масавай інфармацыі, у сферы рэкламы, гукавой і візуальнай інфармацыі.

Вельмі важным з'яўляецца і павышэнне беларускамоўнай кампетэнцыі нашага грамадства. У сувязі з гэтым патрэбна больш эфектыўнае вывучэнне беларускай мовы ў школе.

Гутарыла
Дамініка ЛІСОЎСКАЯ

## Анкета пісьменніка

# «Залаты век» застаўся ў мінулым



1. Існуе меркаванне: калі раней пісьменнік быў настаўнікам, вышчальнікам існы, то цяпер стаў прыватнай асобай, якая рэдка паяўляецца нават на ТБ. І яшчэ радзей — у газетах. Чаму?

2. Падзенне нораваў — міф ці рэальнасць? Ці павінны кнігі "вучыць жыць"?

3. Як грамадская актыўнасць пісьменніка ўплывае на яго літаратурную працу?

4. Як вы думаеце, чаму знікае са старонак літаратурных выданняў публіцыстыка?

Пісьменнік Анатоль БЕНЗЯРУК:

1. Чалавеку ўласціва параўноўваць тое, што было раней, з тым, што ёсць цяпер. Звычайна параўнанне — не на карысць сённяшняга дня. Вядома, калісь і дрэвы былі вышэй, і сонца больш ласкавае… Аднак паспрабуем быць аб'ектыўнымі: калі кулінарыць пачынае шавец, атрымоўваецца ўсё што заўгодна, толькі не марципан. Гэтак і з пісьменнікамі — "настаўнікамі жыцця", "інжынерамі душ", якіх раней было досыць. Яны вяшчалі і з экрана, і ў эфіры, і з газетных палос. Аднак жыццё, як заўжды, аказалася больш складаным і стракатым. Таму сённяшні пісьменнік павінен выконваць адзіную задачу, ускладзеную на яго з Божай ласкі, — пісаць таленавіта, прыгожа і ўдумліва. Увогуле, на маю думку, сярод легіёна пісьменнікаў, што на працягу стагоддзяў нараджала Беларусь, ёсць толькі тры асобы, якія адкрывалі эпохі. Былі і Настаўнікі, і Вяшчальнікамі Існы. Іх унёсак — шлях у будучае краіны. Першым стаў Скарына, за ім прыйшоў Купала і, нарэшце, Караткевіч. Менавіта творы апошніх прывялі многіх (у тым ліку і мяне) да беларускасці. Можа, таму і незаўважныя ў грамадстве пісьменнікі, што месца "вяшчальнікаў" пакуль застаецца вакантным?

2. Некалі Марк Твэн пажартаваў: "На востраве Фіджы не ядуць катлеты. На востраве Фіджы ядуць вадаправодчыкаў. Але хто мы з вамі, каб крытыкаваць норавы на востраве Фіджы?" Пра падзенне маралі гавораць з біблейскіх часоў. Згадайце хоць "Прамову Мялешкі". Дзе "залаты век"? У мінулым. А сёння норавы "не тыя", горшыя, значна горшыя. Пісьменнікі заўсёды па-старэчы бурчалі на свой час, на моладзь, якая "не есць катлеты". Потым моладзь сталела, старэла і зноў скрушна ўздыхала: "Вось у наш час…" Падзенне нораваў — гэта не міф і не рэальнасць. Як пісаў Рыгор Горын: "Гэта не факт. Гэта больш, чым факт: так яно было на самай справе!"

Накшт таго, ці павінны кнігі "вучыць жыць", можна адказаць словамі з вядомага фільма: "Не вучыце жыць, а дапамажыце матэрыяльна". Калі пісьменнікі пачынаюць блытаць дзеясловы "вучыць" і "павучаць", іх кнігі пачынаюць глытаць пыл у шафах. Пушкін жыве ў XXI стагоддзі і вучыць усё новыя пакаленні. Ад нашай літаратуры патрэбны творы, што застануцца жыццёвымі "падручнікамі" праз стагоддзі.

3. Вышэй, у першым пытанні, вы называлі пісьменніка "прыватнай асобай", што лянуецца нават з'явіцца перад тэлекамерай і выказацца ў прэсе. Цяпер абвяшчаецца асобай, што можа мець грамадскую актыўнасць. Думаю, гэта супярэчлівасць ідзе ад таго, што пісьменнікі не шасцяронкі, вытачаныя на адным станку. Заўсёды былі і тыя, чыя хата з краю, і тыя, хто, як Эміль Заля, казаў: "Я абвінавачваю!" Талент ускладае на пісьменніцкія плечы абвостранае пачуццё адказнасці за тое, чым "слова тваё адгукнецца".

4. Найперш сучасны нарыс павінен быць. Да гэтага жанру звяртаюцца ўсё радзей. Не таму, што зямля беларуская збяднела на людзей з цікавымі лёсамі. Прыйшоў час лаканічнага, хуткага і непісьменнага SMS-паведамлення. Нарыс патрабуе задумацца, а значыць, хоць на нейкую гадзіну прыпыніцца, каб агледзецца навокал. Бо герой твора на прыкладзе сваіх удач і памылак міжвольна вучыць жыццю. Справа ў іншым: ці здольны чытач прыняць гэту жыццёвую навуку?

Фота Кастуся Дробава

# Сюжэты для класікаў

Купала і Колас, вы нас гадавалі: дакументы і матэрыялы. У 2 кн. Кн. 1. 1909 — 1939 / уклад.: В. Дз. Селяменеў, В. У. Скалабан; рэд. калегія: М. І. Мушынскі (гал. рэд.) [і інш.]. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010. — 320 с.

Пэўны час па выданні поўнага збору твораў Янкі Купалы здавалася, што туды ўключана літаральна ўсё, што напісана рукой класіка. Наватарствам лічылася ўвядзенне ў корпус тэкстаў службовых дакументаў за подпісам Купалы, калектыўных твораў, дароўных надпісаў і г.д. Аднак цяпер высвятляецца (зрэшты, гэтага і трэба было чакаць), што вельмі многае засталося па-за ўвагаю акадэмічнага збору. Так, у нашым выданні з'явіўся артыкул В. Рагойшы, дзе былі ўдакладненыя тэксты шэрагу вершаў песняра — у архіве Купалаўскага музея пры падрыхтоўцы даведніка "Рукапісная спадчына Янкі Купалы" адшукаліся новыя рукапісы паэта. Шэраг памылак і недахопаў збору быў выяўлены ў паасобных публікацыях А. Сідарэвіча.

Сёння, у час, калі выдаецца найпаўнейшы збор твораў Якуба Коласа, адбываецца тая самая праца, што была праведзеная купалазнаўцамі: ідзе падагульненне сабранага матэрыялу, фіксуецца, удакладняецца і каменціруецца ўсё напісанае рукой Коласа. Паводле зразумелых прычын праца будзе значна цяжэйшай — аб'ём аўтографаў Коласа большы і неаднародны па сваёй вазе і вартасці. Зразумела, што ўключаць у збор твораў усе дакументы Акадэміі навук, падпісаныя Якубам Коласам, немэтазгодна. Давядзецца выбіраць тое своеасаблівае, тое прынцыповае, што было зроблена класікамі. За час, які прайшоў пасля выдання акадэмічнага збору твораў і, тым больш, яшчэ савецкага коласаўскага шматтомніка, змяніўся сам падыход беларускіх (і не толькі) тэкстолагаў да ўкладання поўных збораў твораў. Як вынік — пастаяннае пашырэнне аб'ёму выдання за кошт "новых паступленняў".

У свой час такое пашырэнне было ажыццёўлена ў архіўных зборніках "Пуцявінамі Янкі Купалы" (1981) і "З жыццяпісу Якуба Коласа" (1982) Генадзя Кісялёва. Відавочна, для 1980-х гэта быў сапраўдны прарыў: на сутыку літаратурнай і гістарычнай навукі, архівазнаўства і крыніцазнаўства адкрылася практычна невядомая датуль планета быцця класікаў — і гэта пры наяўных сотнях артыкулаў і дзясятках дысертацый па творчасці Купалы і Коласа! Бясспрэчна, многае з кісялёўскіх матэрыялаў увойдзе ў новы дваццацітомнік Коласа, бо ранейшы, 14-томны, збор выдаваўся яшчэ да публікацыі слыннай архіўнай кнігі.

Побытавую гісторыю беларускай літаратуры, альбо, як называлі яе раней, — сацыялогію літаратуры, пакуль ніхто не напісаў. Ды і ці магчыма гэта наогул? Тым не менш з'ява гэтая ў навуцы прысутнічае, раскіданая па размаітых выданнях і малатыражных зборніках. Асабліва даследаванай галіной тут з'яўляецца літаратурная сацыялогія 1920-х гг. Немалую ролю адыгралі ў гэтым савецкія выданні ўспамінаў маладых тады літаратараў (некаторыя з іх прайшлі Сібір) і зборнікі аўтабіяграфій; нельга не ўзгадаць тут і мемуарыстыку і эпісталярый эміграцыі, часткова апублікаваныя БІНІМам. Вялікую ролю адыгралі таксама публікацыі супрацоўнікаў Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва (Г. Запартыка, В. Жыбуль, Т. Кекелева і інш.), але найперш трэба было б адзначыць супольную працу В. Скалабана і Л. Рублеўскай у пастаяннай рубрыцы газеты "СБ — Беларусь сегодня" (у няпоўным аб'ёме прадстаўленая ў кнізе "Время и бремя архивов и имен"(Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2009)).

Першы том новых дакументаў, прысвечаных класікам беларускай літаратуры, які нядаўна пабачыў свет у РВУ "Літаратура і Мастацтва" — "Купала і Колас, вы нас гадавалі (у 2 кн.)" — радуе вока разнастайнасцю і багаццем біяграфічнага матэрыялу. Над кнігай акрамя асноўных укладальнікаў, В. Дз. Селяменева і В. У. Скалабана, працавалі яшчэ каля двух дзясяткаў архівістаў з самых розных сховішчаў Беларусі, Расіі і Заходняй Еўропы (усе яны пералічаны на пачатку і ў прадмове да кнігі). Дапаўняючы назву, можна сказаць, што не толькі аблічча Купалы і Коласа вымалёўваецца тут, але і сам дух часу, дух эпохі, разліты ў ашчадных на эмоцыю

Менавіта ў "заўвагах на палях" альбо неадрэдагаваных стэнаграмах мы можам пачуць наўпроставае, непасрэднае маўленне класіка. Думаецца, што вартасць падобных пазалітаратурных матэрыялаў (у тым ліку і новых эпісталярных знаходак) палягае ў магчымасці ацаніць класіка не столькі за стыль, за "высокую ідэйнасць і мастацкасць", але за ягоныя чалавечыя, асобасныя праявы.

радках службовых дакументаў, пасяджэнняў, стэнаграм, пратаколаў і г.д. Слова класікаў гучыць крыху прыцэнена, часам гэта заўвагі, рэплікі літаральна "на палях" (гл. публікацыю супольных фальклорных запісаў Я. Купалы і А. Грыневіча). Яно і зразумела — не так шмат чаго можна ўжо сёння знайсці неапублікаванага купалаўскага. Аднак і такія, дробныя, здавалася, літаратурныя факты павінны быць абавязкова зафіксаваныя. Там больш што менавіта ў "заўвагах на палях" альбо неадрэдагаваных стэнаграмах мы можам пачуць наўпроставае, непасрэднае маўленне класіка. Думаецца, што вартасць падобных пазалітаратурных матэрыялаў (у тым ліку і новых эпісталярных знаходак) палягае ў магчымасці ацаніць класіка не столькі за стыль, за "высокую ідэйнасць і мастацкасць", але за ягоныя чалавечыя, асобасныя праявы.

Немалую (а лепш сказаць — найбольшую) частку кнігі займаюць тыя матэрыялы, што раней, да паўставання незалежнай Беларусі, публікаваць было немагчыма ў прынцыпе: дужа нязручныя і непажаданыя для разгляду былі пытанні. Я маю на ўвазе такія раздзелы зборніка "Купала і Колас… Кн. 1", як "Адозва праваслаўных святароў і грамадскіх дзеячаў", "Якуб Колас і лістападаўшчына", "Саюз вызвалення Беларусі", "Аб фактах прасочвання…" , "Паказанні Якуба Коласа на камісіі Бюро ЦК КП(б)Б па справе М. Клімковіча", "З хронікі 1937 г.", "Ардэнаносцы". Сапраўды, як можа аўтар "Сымона-музыкі" падпісваць адозвы ў абарону праваслаўя? Як можа ён знаходзіцца пад следствам, а пасля — пад пільным наглядам і практычна пад "каўпаком" вышэйшых інстанцый (тое самае і ў адносінах да Купалы)?

Жыццё класікаў сапраўды вісела на валаску — чаго варты толькі ліст (а фактычна — данос) парторга АН БССР Краснеўскага сакратару ЦК КП(б)Б Волкаву ад 27.XI.37: "Считаю своим долгом сообщить Вам о следующем факте. На днях я зашел по делам Ин-та литературы и языка в кабинет вице-президента Академии наук Коласа. Я говорил с ним на белорусском языке. В конце нашего делового разговора Колас вдруг начал жаловаться на то, что якобы все забыли про белорусизацию, что он, Колас, не слышит нигде живого белорусского слова, все говорят по-русски в Академии наук и даже среди белорусских писателей. Колас даже сказал, что он ожидал от нового руководства ЦК КП(б)Б программных указаний по этому вопросу, но к его, Коласа, сожалению таких указаний пока нет. Он также жаловался на то, что в Академии с ним никто не считается и он сидит «только для близиру». В конце Колас сделал оговорку «няхай гэта будзе паміж намі»". Гэтая паперка, якая магла каштаваць Коласу жыцця (месяца яшчэ не прайшло пасля сумнавядомай ночы 29 — 30 кастрычніка 1937 г.), прыносіць нам сапраўднае разуменне тагачаснага становішча аўтара "Новай зямлі"…




Сёння, напрыканцы 2000-х, можна ўпэўнена гаварыць пра тое, што 1990-я былі часам "змывання" не толькі бронзы (чым займаліся постмадэрністы), але перш за ўсё патакі з класікаў. 1990-я былі часам трыумфу "чорнага колеру". Тое трагічнае ў жыцці Купалы і Коласа, што раней хавалася ад вачэй, выцягвалася з патаемных кутоў і нярэдка, на жаль, смакавалася чытачамі. Недахопу ў такой чарнаце не было. Часткова апублікаваныя і на дадзены момант закрытыя архівы КДБ і сёння яшчэ мрояцца многім даследчыкам. Але, нават калі б і надарылася такая магчымасць,

Па вялікім рахунку, да нас набліжаецца новая бесстаронняя біяграфія Янкі Купалы, дзе аўтар падасць нам побач з Купалам-паэтам яшчэ і Купалу-чалавека. Наогул даўно наспела і выданне падобнай да верасаеўскай "Пушкін у жыцці" кнігі "Купала ў жыцці" — разасобленыя, а да таго ж і нярэдка сумнеўныя мемуары мусяць быць адфільтраваныя даследчыкамі, а самае яркае, рэчыўнае, характэрнае — увайсці ў кнігу, якая была б цікавая шырокаму колу чытачоў.

што мы б адкрылі там? Бадай, толькі тое, што вядома і так: сотні даносаў, выбітых катаваннямі ілжывых сведчанняў, тысячы пераламаных, адзінкі нязломленых праз дачасную смерць… З пачаткам новага тысячагоддзя той назапашаны матэрыял трагічнага, "чорнага" пачаў дысцыляваць, "слаіцца", прыходзячы паступова ў сістэму з вядомым раней "чырвоным". У выніку воблік песняроў сёння малюецца ў амбівалентным ключы — без сляпога пакланення, без замоўчвання як светлых, так і цёмных бакоў іх жыццёвага і творчага шляху.

Важна і тое, што яны становяцца нам бліжэй яшчэ і ў плане бытавым. Чорны колер асвятляецца дзякуючы такім раздзелам кнігі, як "Янка Купала купляе дом", "Гісторыя з шахматным столікам". Па вялікім рахунку, да нас набліжаецца новая бесстаронняя біяграфія Янкі Купалы, дзе аўтар падасць нам побач з Купалам-паэтам яшчэ і Купалу-чалавека. Наогул даўно наспела і выданне падобнай да верасаеўскай "Пушкін у жыцці" кнігі "Купала ў жыцці" — разасобленыя, а да таго ж і нярэдка сумнеўныя мемуары мусяць быць адфільтраваныя даследчыкамі, а самае яркае, рэчыўнае, характэрнае — увайсці ў кнігу, якая была б цікавая шырокаму колу чытачоў. Амаль паўсотні раздзелаў зборніка "Купала і Колас, вы нас гадавалі. Кн. 1" з'яўляюцца своеасаблівымі сюжэтамі жыццёвага шляху класікаў. Па сутнасці, гэтыя і іншыя архіўныя зборнікі такога кшталту ўтвараюць выкшталцоныя нелінейныя раманы-біяграфіі. Іх вартасць тым большая, што з кожным годам вучонымі адкрываюцца ўсё новыя і новыя "сюжэты". Гучыць амаль неpraўдападобна, але гэта насамрэч так.

Вырашаюцца ў кнізе і пытанні атачэння класікаў, а праз гэта — рэцэпцыі, успрымання іх творчасці. Кола рэцыпіентаў павінна было б арганізоўвацца паводле пэўнай тагачаснай сацыяльнай іерархіі: як успрымалася паэзія і асоба Купалы і Коласа партыйнымі лідарамі, сябрамі, ворагамі паэта, незнаёмымі людзьмі, беларускімі і іншанацыянальнымі пісьменнікамі і людзьмі, далёкімі ад літаратуры? Пашырае кола гэтых кантактаў і дадзеная кніга — варта толькі зірнуць на паказальнік імёнаў, каб адчуць, колькі самых розных людзей знаходзілася ў полі прыцягнення класікаў. Дарэчы, прыгадваючы таго ж Пушкіна, былі яшчэ і дзясяткі зборнікаў "Пушкін і яго сучаснікі" (у адным з іх, дарэчы, надрукаваўся ў 1917 г. і наш М. Багдановіч). Чаму ж у беларусаў не было падобных перыядычных зборнікаў, прысвечаных нашым Песнярам? Пытанне, як кажуць, рытарычнае…

Найбольшую цікавасць у літаратуразнаўцаў-даследчыкаў паэзіі Янкі Купалы і Якуба Коласа, безумоўна, выклікаюць стэнаграмы іх творчых вечароў, што адбываліся ў Маскве ў 1934 і 1936 гг. (арыгіналы дакументаў захоўваюцца ў Расійскім дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва). Тут мы можам прачытаць пра ўспрыманне нашых класікаў прадстаўнікамі рускіх літаратурных колаў: С. Гарадзецкага, Дз. Беднага, А. Суркова і інш. Іх меркаванні і назіранні вельмі каштоўныя, асабліва я тут маю на ўвазе Гарадзецкага і Суркова, што хоць і знаходзіліся ў шэрагах літфункцыянераў, працягвалі і тады валодаць добрым густам і здольнасцю да аналізу — няхай і ў крыху эклектычнай форме.

Другая кніга зборніка "Купала і Колас, вы нас гадавалі" абяцае пазнаёміць з праўдзівай гісторыяй публікацыі купалаўскага верша "Партызаны, партызаны…", дакументамі, прысвечанымі абставінам смерці Янкі Купалы, дзейнасці класікаў у гады ваеннага ліхалецця, працы Якуба Коласа ў АН БССР, ЦК КП(б)Б і іншых установах. Будуць, безумоўна, і адкрыцці. Добрая штука навука: прастор для адкрыццяў заўсёды застаецца для кожнага пакалення.

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ




# На світанках Прыдзвіння

Віцебская вобласць у гэтым годзе стала сапраўдным эпіцэнтрам выбітных падзей і круглых дат. Па-першае — 80-годдзе з дня нараджэння нашага славутага земляка, аршанца Уладзіміра Караткевіча. Па-другое — стогадовы юбілей Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава. Менавіта ў сувязі з гэтым актывізавалася творчая дзейнасць студэнцкай літаратурнай гасцінай "Строкой негромкою…", якая існуе пры кафедры літаратуры на філалагічным факультэце ВДУ з кастрычніка 1995 года.

Удзельнікі аб'яднання зладзілі прэзентацыю анталогіі вершаў "Придвинские зори", прысвечанай альма-матар. Гэта ўжо чацвёрты збор паэтычнай працы гуртка — сярод ранейшых трэба адзначыць зборнік "Верность", надрукаваны ў гонар 60-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. На сучасным этапе гасцінай кіруе (будзе нават лепш казаць — супрацоўнічае з яе маладымі паэтамі) выкладчыца кафедры літаратуры ВДУ, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Алена Крыклівец. Яна ж з'яўляецца рэдактарам-складальнікам "Придвинских зорь", а таксама аўтарам уступнага артыкула да кнігі.

У зборніку прадстаўлены вершы 36 аўтараў як на рускай, так і на беларускай мове. Тэматыка твораў такая ж featuresнабаковая, як і іх аўтары: гэта і пейзажная, і любоўная, і своеасаблівая філасофская лірыка… Сярод вершаў, напісаных на роднай мове, вылучаюцца радкі Васіля Гардзіёнка, які па-майстэрску сумяшчае ў адным творы патрыятычныя матывы з інтымнымі перажываннямі:

Размаўляй са мной па-беларуску.
Калі хочаш, проста памаўчы.
Я хачу з тваіх салодкіх вуснаў
паспытаць прастору далячынь.
Гавары са мной па-беларуску.

Немагчыма не захапіцца талентам Антона Мяхоўскага, які, нягледзячы на свой юны ўзрост, ужо дэманструе чытачу выдатнае валоданне словам:

Восень — злая чараўніца —
жоўць наўкол параскідала,
ў тумановыя спадніцы
куст вяргіняў паўбірала.
Бач, цвітуць у сумным садзе
калярова, сакавіта —
генералы на парадзе,
тэатральныя сафіты.

Натуральна, большасць вершаў, якія належаць пяру дзявочай паловы гасцінай, прысвечаны тэме кахання:

Не памяняць цябе,
не памяняць.
У сінь вачэй не зазірне надзея.
Тваю душу
не буду больш трымаць.
Так будзе лепш для нас.
Я разумею.

Цікава яшчэ тое, што сярод аўтараў зборніка ёсць і замежныя студэнты. Іх кранальныя вершы на рускай мове таксама вартыя ўвагі, бо яны ўвасабляюць усходні светапогляд.

Застаецца спадзявацца на тое, што "Придвинские зори" зоймуць годнае месца ў сучаснай літаратуры Віцебшчыны і звернуць на сябе ўвагу аматараў паэтычнага слова.

Ірына КАРЭЛІНА,
студэнка інстытута журналістыкі БДУ

# «Флот каўчэгаў» між выспамі асацыяцый

Аповед С. Астраўца "Флот каўчэгаў" (2002 — 2008 гг.) з'яўляецца складаным кампазіцыйным утварэннем, дзе функцыю аб'яднальнага стрыжня выконвае асоба Фабіяна (цэнтральнага персанажа), вачыма якога чытач успрымае рэчаіснасць. Свядомасць персанажа выпрацоўвае ланцуг асацыяцый, сэнсавым цэнтрам якіх з'яўляюцца падзеі 1920-х гадоў на паўвостраве Крым. Пры дапамозе асацыятыўнай сувязі падзей пісьменнік свабодна перасоўваецца ў часе (ад 1920-х да цяперашняга, узгадваючы армейскае мінулае Фабіяна, служба якога адбывалася побач з морам), натуральна ўплятаючы ў вольную плынь вобразаў гістарычныя і літаратурныя згадкі старажытнасці. Твор характарызуецца пераходамі ад адной тэмы да іншай, свабоднай кампаноўкай частак тэксту. Зварот да асэнсавання праблемы з мінулага адбываецца з мэтай знайсці гістарычную аналогію з падзеямі сённяшняга дня ва ўласнай краіне.

Найбольшая колькасць разваг у тэксце накіравана на спробу асэнсавання гістарычнай падзеі — адплыцця арміі Урангеля. Па сутнасці ў творы апісваецца не столькі сама гістарычная дзея, колькі спробы асэнсаваць яе, убачыць з іншага пункта гледжання, уявіць магчымыя іншыя варыянты развіцця гісторыі. Персанаж спрабуе рэканструяваць у свядомасці гэты маштабны зрух носьбітаў пэўнай духоўнай культуры, колькасць якіх супастаўляецца з насельніцтвам даволі вялікага горада. Найбольшую ўвагу Фабіяна прыцягваюць пачуцці і думкі вымушаных эмігрантаў, якія ён спрабуе ўзнавіць, карыстаючыся кінахронікамі, урыўкамі кінематаграфічных і кніжных асацыяцый.

Распавед пра сучасныя рэаліі даволі шчыльна насычаны дзеяннямі. На пачатку твора іх апісанне нагадвае хуткае пералічэнне, сціслую справаздачу пра праведзены адпачынак. Да статусу падзеі ўзнімаецца толькі пошук і набыццё пляшак з віном, якое для Фабіяна і ягонай сяброўкі становіцца традыцыяй і суправаджаецца абавязковымі знаходжаннямі літаратурнага кантэксту да чарговай назвы этыкеткі. Такая знешняя падзейнасць тым не менш ніяк не рухае сюжэт. Апісанні экзатычных краявідаў з уладкаваннем на ноч караблёў, а таксама раніц, пазбаўленых гарадскога шуму, не адлюстроўваюць ход часу, а малююць адметнасць прыроды паўвострава Крым у параўнанні з роднымі персанажу мясцінамі. Успаміны пра вайсковую службу, якая прайшла побач з морам, паўстаюць аднародным масівам уражанняў ад экзатычнай краіны, магчымасці ўбачыць кавалак жыцця, непадобнага на звыклае.

Асаблівасці сюжэта вызначае суб'ектыўны час, з дапамогай якога свядомасць персанажа цэментуе такія кавалкі тэксту, як гістарычныя згадкі, успаміны з мінулага жыцця, уражанні ад прыгажосці прыроды, дыялогі-развагі. Звязаць у адно цэлае разнародныя фрагменты аповеда дазваляе выкарыстанне аўтарам асацыяцый, выкліканых падабенствам сітуацыі, тоеснасцю месца. Некалькі разоў згадкі пра гістарычную драму наведваюць Фабіяна, калі ён уладкоўваецца спаць ці проста заплюшчвае вочы.

Часам пераход ад цяперашняга часу да падзей пачатку мінулага стагоддзя і наадварот адбываецца амаль незаўважна, вынікаючы са створанай аўтарам метафары. Так, напрыклад, ад параўнання Крыма з амфарай, дзе вінам была крымская армія, вымушаная адступіць і запячатаць уваход на паўвостраў, "нібы сургучом бутлю" аўтар нязмушана пераходзіць да апісання сучасных крымскіх вінных вітрын, перад якімі апынуліся персанаж і яго сяброўка. Іх дыялог на тэму алкагольных пераваг белагвардзейцаў заканчваецца вяртаннем Фабіянавых думак да лёсу арміі, што пацярпела паразу: "Ускочылі з-за стала, не паспеўшы дагаманіць, дапіць. За іх дапілі іншыя, не пагрэбавалі, паклаўшы побач на стале наганы". Такія хуткія пераходы ад аднаго часу да іншага выглядаюць натуральнымі таму, што адбываюцца ў свядомасці Фабіяна, якая то ўспрымае падзеі сучаснага яму жыцця, то звяртаецца да роздумаў над гістарычным мінулым, ствараючы паралелі ці падкрэсліваючы адрозненні паміж імі.

Знаходжанне персанажа пад праліўным дажджом (ва ўладзе воднай стыхіі) дае аўтару магчымасць без асаблівай нацяжкі перайсці да апісання адплыцця ўрангелеўскіх каўчэгаў. Але найчасцей ролю прыцягнення гістарычных згадак выконвае мора, сузіраючы сіні далягляд якога, можна лёгка ўявіць афіцэраў на ста дваццаці шасці караблях, амаль фізічна адчуць іх зняверанасць і боль.



Малюнак Алсі Ісы

На старонках твора, прысвечаных сучаснасці, мора трактуецца ў рамантычна-экзатычным ключы, часткова прымаючы семантыку бар'ера, які аддзяляе ад невядомых чароўных краін. На такое разуменне накладваецца вынесенае з часоў службы ў войску ўяўленне пра марскую стыхію як своеасаблівага праваднікa іншай культуры. Мора не толькі зачароўвае сваёй прыгажосцю, але і дазваляе здзейсніць уяўныя падарожжы ў часе: "Глядзіш на горы, неба, на мора і нібы апынаешся ў антычных часах, зараз карабель Адысея пазначыцца белай плямкай ветразя на даляглядзе", — якім спрыяе нязменнасць воднай стыхіі на працягу стагоддзяў.

Найбольшая семантычная напоўненасць вобраза мора ў радках тэксту, прысвечаных апісанню адплыцця арміі Урангеля, натуральна вынікае з таго, што да ўспрыняцця, вынесенага з асабістага жыццёвага вопыту персанажа, дадаюцца літаратурныя алюзіі і спробы ўзнаўлення эмацыянальнага перажывання моманту вымушанымі ўцекачамі. "Гэтае мора, яно ці не тое Чырвонае, праз якое ратаваліся ад егіпецкай няволі? Ад нявольніцтва, абвешчанага свабодай? Знарочыстасць параўнання. Мора было Чорным, а ўцякалі яны ад чырвоных". Гістарычныя зрухі правакуюць змены ў сістэме каштоўнасцей, мяняюць паняцці месцамі — замест пазбаўлення рабскіх ланцугоў — уцёкі з радзімы, што перастала быць роднай; чырвоны колер свабоды ператвараецца ў чорны колер жалобы.

Наяўнасць у тэксце біблейскай сімволікі дазваляе ўспрымаць марскую стыхію як сродак ачышчэння ад нейкай паразы, калі яна часткова прымае на сябе функцыю сусветнага патопу. Бездань марской вады, у якой чырвоная навала нібыта захлынаецца, губляючы пагрозлівую ваяўнічасць, набывае статус своеасаблівай субстанцыі, якая здольная ўратаваць ад нейкага няшчасця.

Непасрэдна звязаным з вобразам мора паняцці карабель (флот караблёў) і рай (месца побач з морам). Карабель для персанажа не проста марскі транспарт, а своеасаблівая копія чалавечага жытла. Стаянкі караблёў, якія ўладкоўваюцца на начлег, нагадваюць Фабіяну часовыя паселішчы, з экзатычнай афарбоўкай, бо ліхтары на іх бартах часам падаюцца вачамі нейкіх чароўных пачвар.

Праз апеляцыю да вобраза каўчэга, які перманентна ўзгадваецца ў дачыненні да ўцёкаў арміі Урангеля, С. Астравец пашырае семантыку карабля да ўніверсальнага сродку ўратавання чалавечага жыцця. Каб яшчэ больш замацаваць названую паралель, пісьменнік знаходзіць такія дэталі з побыту насельнікаў белага флоту, якія б адпавядалі біблейскім. Найбольш вядомы вобраз з гісторыі пра сусветны патоп — голуб, які прынёс радасную вестку аб адступленні вады; аўтар узгадвае, што на імправізаваных каўчэгах генерала Урангеля ў клетках таксама былі паштовыя галубы.

Яшчэ адным моцным каталізатарам роздумаў над гістарычнай падзеяй выступае паўвостраў Крым, а дакладней, яго краявід, ландшафт, які разам з адметнасцю прыроды міжволі выклікае думкі пра старажытнасць. У кожным з часовых пластоў аповеда названы вобраз мае адметную семантыку адпаведна гістарычным і культурным рэаліям, арганічна спалучыць якія дазваляе лагічна-асацыятыўная сувязь падзей у тэксце.

Развагі-роздумы над акалічнасцямі не вельмі даўняй гісторыі выкліканы "гістарычным духам райскай мясцовасці" Крыма, які некалі стаўся месцам разгортвання гэтых падзей і дзе аказваецца персанаж. Сумяшчэнне часовых пластоў твора, якое адбываецца ў свядомасці персанажа, стварае стэрэаскапічны малюнак паўвострава, у якім натуральна спалучаюцца непасрэдныя ўражанні і ўспаміны героя з ягонымі літаратурнымі згадкамі і спробамі рэканструяваць душэўныя пачуцці людзей у няпростых гістарычных варунках.

Ксенія КУШНАРОВА

# Паэзія пачынаецца




Дзе пачынаецца паэзія? Верагодна, каб людзі ведалі дакладны адказ на гэта пытанне, кожны даўно б заняўся напісаннем вершаў. Але адказу няма, і пра яго застаецца здагадвацца толькі праз нячастыя адкрыцці сапраўднай паэзіі. Такая паэзія адкрывае свет з іншага боку, яе адчуваеш фізічна. Часцей за ўсё гэта вершы, якія падабаюцца многім і абмяркоўваць якія можна бясконца. Менавіта такімі, на нашу думку, з'яўляюцца творы Алеся Разанава, выдадзеныя ў зборніку "Воплескі даланёю адною".

Уявіце сабе сапраўдны воплеск даланёю — лёгкі, магічны жэст. Такімі ж, паветранымі і чарадзейнымі, атрымаліся і вершы Алеся Разанава, а дакладней — хайку, ці хоку. Яны ад пачатку не маюць важкасці, яны занадта вобразныя, каб прывязвацца да нейкага "празаічнага" прадмета. Аднак нягледзячы на такую эфірнасць, кожны твор насычаны дакладнымі, часам нават пабытавымі героямі:

З сумкай у левай,
з пакетам у правай —
вядзе
з рынку спадарыня
раўнавагу.

Героямі разанаўскай паэзіі становяцца і стыхіі, пачуцці, сапраўдныя пейзажы: аўтар піша пра ўсё, што бачыць. І паколькі бачыць ён часцей сэрцам, чым вачыма, то і шлях ад думак да паэзіі ў яго кароткі.

Між сказанным
і нявыказаным
працяжнік:
з вакзала
вырушваецца цягнік.

Мабыць, з гэтага і пачынаецца паэзія — са здольнасці бачыць з-пад прыкрытых павек, фармуляваць думкі не лагічна, а вобразна? Можа, і так. Але на гэтым яна не канчаецца.

Паэзія не бывае сапраўднай, калі яна не інтэлектуальная.

Алесь Разанаў піша "акупункціры". Ён прафесійна займаецца перакладамі — з літоўскай, латышскай, грузінскай, балгарскай, сербахарвацкай, чэшскай, англійскай моў. Асобнае месца сярод яго перакладаў адведзена хайку, якія ўпершыню загучалі па-беларуску дзякуючы менавіта Алесю Разанаву. Ён увогуле заўсёды робіць тое, чаго да яго не было. А ўлічваючы той факт, што Алесь Разанаў — сапраўдны патрыёт і знаўца беларускай мовы, рабіць такія маленькія цуды, як пісаць беларускія хайку, не ўяўляе для яго асаблівых цяжкасцей.

У стварэнні паэзіі хоку (ці хайку) выключная роля належыць філасофіі дзэн-будызму. Кожны верш павінен мець строга вызначаную сістэму вобразаў. Так, аўтар хайку пераплятае свае ўнутраныя пачуцці з прыроднымі з'явамі:

Снег адступае —
займае
трава наступнасць.

Талент перадаць у некалькіх словах усе фарбы імгнення сапраўднай паэзіяй. Але Алесь Разанаў пайшоў далей. Нездарма яго лічаць наватарам.

Вялікую ролю ў паэзіі Алеся Разанава адыгрывае пунктуацыя. Кароткага позірку на верш хапае, каб зразумець: аўтар з павагай адносіцца да ўсіх знакаў прыпынку, разумее ўсю іх значнасць:

Набраўся і нясе бярэмак
пылу віхор:
у дакор —
мо некаму?!.
Мо нікому?!.

Першы радок Алеся Разанава заўсёды самы цікавы. Пачуцці і пытанні, выказаныя на пачатку твора, чалавек задае сабе амаль кожны дзень. Але…

Датворвае створанае?!. —
Змывае
сляды і аблічча
дождж.

Здольнасць адчуць сябе галінкай, сабакам, ручаём гаворыць пра тое, як тонка паэт адчувае прыроду. А можа, гэта ў прыроды такія інтымныя адносіны з паэтам?..

Складаецца верш —
краявід
угадвае словы.

Нарадзіўшыся ў сярэдзіне мінулага стагоддзя, аўтар не захраснуў у прошлым часе. Наадварот: яго час нават пераганяе цяперашні, дазваляе яму пісаць пра тое, што мы яшчэ пабачым.

Пацэліла ў самую кропку!..
З вярбы
сарвалася кропля:
кругі на лужы.

Плынь часу — галоўны вобраз паэта. Яго час не ўкладваецца ў два гады, за якія быў напісаны зборнік, яго час не змяшчаецца ў імгненне прыроды, яе прамежкавы і нябачны стан, яго час лягчэйшы за пару-тройку радкоў кароткага верша. І ў зборніка няма адзінага настрою ці агульнай тэмы — у ім ёсць тонкі пах жыцця і часу, адчуванне, як адно пранікае ў другое. Мабыць, гэта і ёсць галоўны сакрэт паэзіі?

Вершы-думкі, выкладзеныя Алесем Разанавым, падобны да самога часу, якога ніколі не хапае. Так і хочацца чытаць болей, і болей, і болей… Але будзьце асцярожныя: нягледзячы на лёгкую форму, хоку — вельмі складаная паэтычная страва: нездарма яны друкуюцца па адным вершы на старонку. Многіх чытачоў пасля прачытання хоку наведвае натхненне… Дык з чаго ж пачынаецца паэзія?

Сапраўдная паэзія пачынаецца па-за межамі паэзіі. Гэта словы вядомага аўстрыйскага паэта Райнера Марыі Рыльке. Калі ў вас ёсць жаданне, вы можаце з ім паспрачацца. Але ці стане гэтая думка менш праўдзівай?..

Юлія АЛЕХНА



## Ганна МІКЛАШЭВІЧ

* * *

Мне не ўзняцца ужо за аблокі.
Сцяты вусны маўчаннем да болю.
Я пільную свой сум цемнавокі,
Каб не вырваўся з думак на волю...

Мне навошта людскія папрокі?
Я нікога нічым не няволю.
Я пільную свой сум цемнавокі,
Каб не вырваўся з думак на волю.

* * *

Птушкай сполоханай слова
сарвалася з вуснаў...
Воч глыбіня апаліла надзеяй жыццё...
Сэрца заслана
чысцютка-святочным абрусам...
Вы са мной побач,
мой Казачны Прынц, стаіцё...

* * *

Далёка ў мроіве свята
Анёла постаць у маленні...
О, як жа я забыць магла
Той шал падораных імгненняў...

Даруй мне, мілы, забыццё...
Пульсуе кроў, сціскае скроні...
О, як назваць жыццём жыццё,
Калі Я не ў ТВАІМ палоне?!

Навошта ноч без слоў ТВАІХ?
Навошта вочы у трывозе?
Анёл прасіў за нас дваіх,
Але адна я на дарозе...

* * *

Душы збалелай сцішанае сола...
Развеяны ўспамінамі міраж...
Мяне назвалі Вы сваім анёлам
У дзень святы, у Боскі вечар НАШ...

Няўжо то сон быў мройны і пужлівы,
Нібыта сцюжай спужаная птушка.
І шчасце усміхалася, мажліва...
А засталіся — слёзы у падушку...

Жыццёвае ізноў закруціць кола.
Зноў стаўка на высокі пілатаж...
Душы збалелай сцішанае сола
Адно пяшчоціць светлы вобраз ВАШ...

* * *

Мне гэты горад без цябе чужы...
І мне ў натоўпе вельмі адзінока...
Жаданага аблічча міражы
Згубіліся ў вячыстасці аблокаў.

На скрыжаванні паркавых алей
Я паблукаю, нібы ў нашых соснах,
І заіграе сонца весялей
Ад успамінаў радасна-дзівосных...

Спаткаймася ля зорнае мяжы,
Мой летуценна-казачна-далёкі...
Мне гэты горад без цябе чужы...
Ў людскім натоўпе — вельмі адзінока...

* * *

Дзякуй табе за святыя абдымкі,
Словаў пяшчоту, душы разуменне...
Грэюць маўчаннем
сваім фотаздымкі —
Лёсу, пасланага Богам, імгненні.

Колькі у сэрцы цяпла і спагады
Веры ў цябе, у дабро і у Бога...
Песціць нам разам яшчэ даляглядаў
Нашага шляху паднебна-зямнога.

Дзякуй табе за цярпенне і вернасць,
Дзякуй за тое,
што побач ты крочыш,
Што пачуццё
прарастае у вечнасць, —
Часам імклівым яго не сурочыш.

Дзякуй табе за сусвет і за казку,
Нашым каханнем якая завецца...
Светлых пачуццяў дзівосная ласка
Рэхам у душах людзей адгукнецца.

* * *

Суладдзем наталяецца душа,
Калі лаўлю тваіх вачэй пяшчоту...
Чужыя і далёкія спярша,
Пагляды песцім, гонім адзіноту...

Як мне пражыць без роднага цяпла?
Як мне пражыць
без абярэга-ласкі?
І мне не трэба іншага жытла,
А луг і поле,
дзе гамоняць краскі.

І дзе жаўрук так срэбрана звініць,
Дзе гул пчаліны, мёдам пахне жыта...
Табе хачу душу сваю дарыць,
Сябе дарыць свавольна і адкрыта...



## Алесь ЕМЕЛЬЯНАЎ

### Вераснёвага золку дачка

Ты знікаеш у змрочным тумане
Там, дзе месяц калыша рака.
Я чакаю з табою спаткання,
Вераснёвага золку дачка.

У чырвона-жаўцелым адзенні
І з галінкай рабіны ў руках,
Нібы ранішняй мроі тварэнне,
Вераснёвага золку дачка.

На дрыготкім і волкім світанні
Я цябе не стамлюся чакаць,
Каб з табой раствварыцца ў тумане,
Вераснёвага золку дачка.

### Ранак

Светлы сум абуджае кастрычніцкі ранак,
Дрэвы ў шэра-блакітных сукенках стаяць.
Павуцінкі ў паветры,
бы струны, дрыжаць.
Светлы сум абуджае кастрычніцкі ранак.
Галасоў не чутно — ўсе навокала спяць.
Дрэмле вецер, знайшоўшы прыстанак.
Светлы сум абуджае кастрычніцкі ранак,
Дрэвы ў шэра-блакітных сукенках стаяць.

* * *

Раніца.
Возера.
У калысцы хваляў
белая лотаць
Прачынаецца,
раскрывае пялёсткі.
Ласкавыя промні
будзяць пяшчотна
Кожны лісточак,
быццам рукі твае
Кранаюць цела маё.
Лёгкі ветрык варушыць
Мае валасы,
Прымушае забыць пра былое.
І хачу я штодня,
Быццам лотаць,
Прачынацца ад дотыкаў і пацалункаў.

* * *

Паштоўкі —
Кардонныя лёкаі
Часу й прасторы.
Колькі радасцей,
Шчасця, пяшчоты,
Шчырых слоў

Вы ўбіралі сваёй
Папяровай душой.
У зімовую сцюжу
Дыхалі цяплом і надзеяй,
У слату сакавіцкай адлігі
Збіралі сонечна-жоўтыя
Букеты мімозаў,
Падпярэзваліся
Чорна-памаранцавай стужкай
На свята Перамогі,
Прыходзілі ў дом
За сотні і тысячы вёрстаў
Цераз межы, гады і адлегласці.
Я ўбачыў у прадаўшчыцы,
Што гандлюе кнігамі,
Пачак чароўных паштовак,
І адразу ж купіў,
Бо памятаю час,
Калі
Вы ў зімовую сцюжу
Дыхалі цяплом і надзеяй...

### Свята паэзіі ў Вязынцы

Сонца ручнікі аблокаў выткала,
І на сэрцы так лагодна стала.
Па страсе кульгала сітаўка —
То, відаць, глядзеў на нас Купала!

Сёння ж знікла сонца плыткае,
Ветрам з дрэваў лісце пазрывала.
Зноўку на страсе пабачыў сітаўку,
І на сэрцы так лагодна стала.

### Ляля

Цябе прывабнай, маладою
Багіняй уяўляю, ты
Растопіш лёд сваёй хадою,
Жыццё абудзіш з нематы,

І надасі жывую сілу
Крынічкам чыстым, раўчукам,
Прыроду зеленню і сінню
Аздобіш, Ладзіна дачка.

На шыі пацеркі-расінкі
Блішчаць нязведанай красы,
А сонца сыпле залацінкі
Табе на промні-валасы.

Я ў вочы колеру нябёсаў
Пяшчотна-сінія гляджу.
Валодаеш ты сілай Боскай?!
Дык адагрэй маю душу!

Каб ачуняла, акрыяла,
І абудзілася ад сну,
І каб з усімі сустракала
Каханне, радасць і вясну.

* * *

Сярэдзіна лета,
Спёка.
Таполя —
Жанчына бальзакаўскага ўзросту
Каля паркана
Як сукню з плячэй
Скідае пажоўклае лісце,
Распранаецца —
Ёй невыносна горача,
Млосна.
Яна хварэе на адзіноту,
Знемагае ад смагі.

Прытулюся да магутнага цела,
Каб аддаць часцінку сябе —
Пі, наталяйся,
Толькі жыві,
Жыві!



Фота Кастуся Дробава



## Вера МІХНО

### Настальгія

У чужыя краіны
Ад Радзімы сваёй
Клін ляціць жураўліны,
Як стралы вастрыё.

Крык урэзаўся ў цела,
Аж да сэрца дайшоў,
І яно паляцела
Даганяць жураўлёў.

Пашукаць сваю долю
На чужых берагах...
Ды сціскае да болю
Па Радзіме туга.

Адзінока галосіць
Тое сэрца ўначы.
...Ад сябе і ад лёсу
Не ўдаецца ўцячы.

* * *

Боль ломіць сківіцы,
імкнецца зжыць са свету.
Пякельным вогнішчам смыліць пакута.
Цярпі!
Мінае ўсё,
міне і гэта.
Растопчацца, як ношаны абутак,
І перастане цінуць і калечыць...
Сандалі час збівае,
беды — лечыць.

* * *

Дзесьці ў бясконцым сусвеце
шчасце блукае.
Як адшукаю?!

Ветру за грыву ўчаплюся,
з ім узаўюся,
Ды не ўганюся.

Выйду ў бязмежнае мора,
хвалям прастора —
Мне ж адно гора.

Зычна ў гарах загукаю,
голас сарвецца.
Не адзавецца...

А як вярнуся ні з чым я,
тут, на Радзіме,
Шчасце й абдыме!

### На магілках

На мармурова-гранітным падвор'і
Жальба віецца між чэзлай травы.
Глуха, і толькі ў благое надвор'е
Стогн раздаецца ствалоў векавых
Ды неўміручая памяць аб мёртвых
Тут адгукнецца плачам жывых.

* * *

Калі трывога розум замаркоціць
І сэрца боль пячэ мацней агню,
У лес іду і ў поўнай адзіноце
Гаючую ўдыхаю чысціню.

* * *

Няшчасныя дрэвы падчас лістападу
Слязамі халодных дажджоў заліліся,
Кара задубела ад золкіх вятроў.
Іх воблік заўжды выклікае спагаду!
Шматкамі вісіць адсырэлае лісце,
Парваным, убогім рыззём жабракоў.

* * *

Душа насустрач людзям
раскрываецца
Слязамі шчасця,
крыкам болю і адчаю,
І, як замком пудовым,
замыкаецца
Дашчэнту
спапяляючым
маўчаннем.

* * *

Жыццё — трагікамічны фільм,
Які не пераглядзіш на паўторы,
Не зробіш дубль спрытнейшы, у якім
Парэжаш кадры сораму і гора.

Няма настаўніка, які б твой чарнавік
Сцэнарыя мог выправіць умела...
Каб жыць з сабой у згодзе і любві
Да бліжняга свайго — пішы набела!



# Метамарфозы акцёрскага шчасця

## Праз фізіку — да слязы Марсэля Марсо

Экспазіцыя, прысвечаная найноўшай гісторыі айчыннага сцэнічнага мастацтва, займае ў Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі цэлы паверх. Тут, нібы ў зачараваных лабірынтах закуліснага свету, сярод афіш і архіўных фотаздымкаў, старых праграмак і пастановачнага рэквізіту, тэатральных строяў і асабістых рэчаў, якія належалі колішнім кумірам публікі, пачуваеш сябе падарожнікам па мінулых сезонах, па даўніх часах... Гэты гасцінны дом называюць музеем адраджэння эмоцый. Так, яго рупліўцы імкнуцца прадоўжыць жыццё самых тонкіх і эфемерных мастацтваў: скіроўваючы ўвагу наведвальнікаў на знакавыя экспанаты, сабраныя тут, дапамагаюць уявіць, а значыць і ўзнавіць, цудоўныя імгненні, абудзіць хвалю шчырых эмоцый ад стасункаў з магічным светам творчасці. А свежы ўток у атмасферу музея ўносяць традыцыйныя сустрэчы зацікаўленай публікі з нашымі сучаснікамі — вядомымі дзеячамі мастацтва.

Нядаўна ў гэтых сценах пабываў народны артыст Беларусі, акцёр Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага Аляксандр Ткачонак. Да візіту госця-юбіляра, які адзначыў сваё 60-годдзе, супрацоўнікі музея ўсталявалі стэнды з падборкай яго фотаздымкаў у спектаклях, і атрымалася "персанальная дэкарацыя" для жывога і непаўторнага акцёрскага маналога.

Зрэшты, А. Ткачонак, крыху збянтэжаны нязвыклай для сябе роляй "музейна-культурнага рарытэта", не толькі дзяліўся ўспамінамі, спавядаўся перад аўдыторыяй. Ён прымаў віншаванні, слухаў кампліментарныя рэплікі калег, адказваў на пытанні...

Пра што гаварыў герой сустрэчы? Пра тое, што тэатр — гэта такая творчасць, якой, нібы матыльку-аднадзёнку, наканавана эфемернае жыццё. Спектакль, здавалася б, адзін і той жа, заўтра — ужо новы, і ён будзе іншы, нават калі на сцэну выйдуць тыя самыя акцёры. Зняты на стужку, нават з прысутнасцю публікі ў кадры, спектакль не здатны перадаць жывы подых залы і ўспрымаецца ўжо як тое, што адышло. Як спектаклі, так і самі тэатры, і перыяды ў іх гісторыі бываюць розныя: жывыя, яскравыя — і не надта... Вось і ў тэатры імя Максіма Горкага, дзе Аляксандр Ткачонак працуе ўжо 35 гадоў, з дня заканчэння колішняга Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, бывалі розныя часіны. Такія нават, калі гэты шчыры і сумленны акцёр-праўдалюбца па ўласным жаданні звольніўся, год пражыў па-за тэатрам, актыўна супрацоўнічаў з кіно, не прыняўшы перспектыўных прапаноў ні з Купалаўскага, ні з ТЮГа. Ды ўрэшце быў запрошаны, вернуты ў калектыў горкаўцаў.

Няпросты акцёрскі лёс А. Ткачонка склаўся наогул шчасліва. Прынамсі, ён у гэтым не сумняваецца: "Мой педагог, рэжысёр Уладзімір Маланкін, папярэджваў: у цябе, маўляў, складаная індывідуальнасць, таму рыхтуйся да таго, што будзеш або іграць шмат, або нічога. Нават пры наяўнасці таленту і жадання працаваць павінна быць шанцаванне. Мы, акцёры, — прафесія... залежная. Залежым ад рэжысёра, ад драматурга, ад калег, якія працуюць поруч. І патрэбны сапраўды шчаслівы збег вельмі многіх акалічнасцей, каб цябе "на тэатры" заўважылі". На такія акалічнасці шанцавала. Калі б не яны, дык Аляксандр Леанідавіч, пэўна, прысвяціў бы сваё жыццё фізіцы, якой сур'ёзна захапляўся са школьных гадоў. Схільнасць да навук дакладных, дасведчанасць у сакрэтах побытавай тэхнікі, спанатрапанасць у будаўнічым рамястве тлумачыць "генетычнай спадчыннасцю": адзін з дзядоў быў майстар на ўсе рукі; другі, ляснік, таксама любіў штукарыць; бацька, інжынер-электроншчык, чараваў за хатнім сталом над рознымі механізмамі, "перабіраў" старыя тэлевізары. Маці працавала эканамістам.

Як жа ён "атруціўся тэатрам"? Праз экран-лінзу першага тэлевізара маркі "КВН", глядзець які хадзілі да суседзяў. Убачаная перадача з удзелам славутага міма Марсэля Марсо настолькі ўразіла, што Аляксандр пабываў на адзіным у Мінску гастрольным канцэрце вялікага артыста і нават узяў у яго аўтограф! Потым, застаючыся сам-насам, пачаў пераймаць свайго куміра і прыдумваць уласныя пластычныя эцюды. Гэтымі сцэнкамі весяліў аднагодкаў. Потым яго "ўцягнулі" ў гурток школьнай самадзейнасці. Потым прыйшоў у тэатральную студыю мінскага Палаца піянераў, якой кіраваў Валерый Мароз. А потым — праваліў уступныя іспыты ў БДТМІ з прычыны... прафесійнай няздатнасці.

Цяпер ён разумее, чаму педагогі вынеслі такі жорсткі прысуд: "Я прыйшоў з тэатральнай самадзейнасці — паспяховы і ўпэўнены ў сваёй дасведчанасці. І не ведаў, што ў інстытуце патрабуецца першародная "гліна", з якой педагогі "лепяць" будучага прафесіянала. Я вельмі балюча перажываў свой правал. Год папрацаваўшы на заводзе халадзільнікаў, пайшоў служыць у войска, дзе з мяне "выбілі" ўсё акцёрства, але выбару свайго я не мяняў і ў 1968 годзе рызыкнуўў зноў паступаць у інстытут — ва ўжо належнай кандыцыі "неапрацаванай гліны". І мяне прынялі. Сёння я не надта люблю глядзець на ігру артыстаў-аматараў, на іх саматужны, "вулічны" ўзровень. Артыст — гэта прафесія, якой трэба валодаць! Дарэчы, усялякія камедыйныя тэлешоу і серыялы, "мыльныя оперы" нівелююць нават добрых артыстаў, бо не даюць спажыву для ўнутранай распрацоўкі вобраза, ды і цікавых вобразаў не прапануюць".

Збег акалічнасцей паспрыяў таму, што Аляксандр Леанідавіч стаў адным з вядучых майстроў рускай сцэны ў Беларусі. Аднак у яго творчай біяграфіі ёсць каларытныя вобразы, спакроўленыя з беларускай мовай, адметнай нацыянальнай псіхалогіяй (ролі ў студыйных і тэлепастаноўках, а таксама на горкаўскай сцэне — у "Раскіданым гняздзе" Янкі Купалы, у "Знаку бяды" паводле Васіля Быкава). Сталічны інтэлігент, дзіця горада, тонка разумее дух беларускай зямлі: адкуль гэта? Паводле пашпарта, А.Ткачонак нарадзіўся ў Чашніках, дзе на той час працавалі яго бацькі, ды вырас у Мінску. Але хоць і гадаваўся "на асфальце", мае глыбінную сувязь з прыродай, абагаўляе лес, адчувае мелодыку народнай мовы, бо з маленства гасцяваў у Бешанковіцкім раёне, у бабулі ды дзеда-лесніка... Ён мог быць запатрабаваны і ў рэпертуары першага тэатра краіны, і ў спектаклях коласаўцаў, і ў трупе Беларускага рэспубліканскага ТЮГа, тым болей, што адпаведныя запрашэнні былі. Чаму ж аддаў перавагу тэатру імя М. Горкага?

Таленавітых і дыхтоўна падрыхтаваных да прафесійнай дзейнасці выпускнікоў курса Уладзіміра Маланкіна чакалі ў лепшых тэатрах рэспублікі, куды на пасады галоўных рэжысёраў прыйшлі яркія маладыя творцы. Купалаўскую трупу ўзначаліў Валерый Раеўскі, тэатр імя М. Горкага — Барыс Луцэнка. Абодва рэжысёры запрашалі на працу траіх сяброў-аднакурснікаў: Аляксандра Ткачонка, Андрэя Кармуніна і Аляксандра Джалалава, Ткачонку прапаноўвалі таксама прыязджаць у Віцебск, у тэатр імя Якуба Коласа. Уладзімір Маланкін параіў хлопцам ні ў якім разе не разрываць сваё акцёрскае трыа, разам уладкоўвацца ў адзін з тэатраў. Але ад прапановы Валерыя Раеўскага адмовіліся двое: Андрэй Кармунін, бо ў Купалаўскім працаваў яго знакаміты бацька — Павел Кармунін, ды Аляксандр Джалалаў, бо прыехаў вучыцца ў Мінск з Баку і не ведаў беларускай мовы. Захаваўшы сяброўскую салідарнасць, трое маладых акцёраў выбралі тэатр Барыса Луцэнкі...

Пра творчую індывідуальнасць Аляксандра Ткачонка, пра яго лепшыя сцэнічныя і экранныя вобразы, якія ўпрыгожваюць гісторыю і сённяшні дзень айчыннага мастацтва, напісана нямала. Чарадою характараў і лёсаў прайшлі некаторыя з іх перад гледачом падчас юбілейнага тыдня спектакляў з удзелам акцёра — пад рубрыкай "Дорогие мои старики". Аляксандр Леанідавіч не без іроніі кажа, што яго біяграфія можа выклікаць асацыяцыю з гісторыяй вядомага героя Оскара Уайльда: "Гэта як "Партрэт Дарыяна Грэя", толькі наадварот! Мяркуйце самі. З маладых гадоў я іграў пераважна ўзроставыя ролі: нават у Палацы піянераў мне даручалі ролю дзядулі-прафесара, а літаральна з першых дзён працы ў тэатры давялося тэрмінова ўводзіцца ў спектакль "Адзіны спадкаемца" — на ролю галоўнага героя, старога Жэронта, якую іграю і дагэтуль. Атрыбутыка ўзросту, пастава, хада, пластыка, характарыстыкі маўлення — гэта ўсё знешні антураж, які ўяўляе сабою не самы складаны бок узроставай ролі. Самае галоўнае — дамагчыся адпаведнага ўнутранага адчування, праз погляд, праз вочы ўвасобіць чалавека, які пажыў ужо нямала на гэтым свеце.

І вось цяпер, жартам кажучы, партрэт "пасталеў", а душа пачала маладзець: калі я магу іграць пажылых людзей практычна без узроставага грыму, мне прапанавалі ўвасобіць персанаж, які маладзейшы за мяне гадоў на 20! Гэта галоўны герой вядомай п'есы А. Сухаво-Кабыліна "Вяселле Крачынскага", якую ставіць Кавальчык-старэйшы (яго сын — галоўны рэжысёр нашага калектыву, а Міхаіл Станіслававіч сёння жыве ў Валгаградзе і ўзначальвае там оперны тэатр). Дык вось, гэта першы выпадак, калі ў рэпертуар узялі п'есу з разлікам на мяне. Крачынскі жыве і дзейнічае ў рэаліях XIX стагоддзя. Ён — гулец, і не толькі ў літаральным сэнсе слова: ён гуляе людзьмі, ён іграе на чалавечых пачуццях, маніпулюе імі. І я мушу корпацца ў сабе, каб дзесьці ва ўласных глыбінях "адкапаць" тое, чым з'яўляецца мой персанаж і што, праз часавую дыстанцыю, перагукаецца з нашай рэальнасцю. І, знаходзячы, — спраецыраваць, як рэха, на сённяшні дзень".

Ролі не выпрошваў: іх Аляксандру Ткачонку прапаноўвалі самі рэжысёры, хаця далёка не ўсё з прапанаванага яму падабалася. І наконт ганаровых званняў не хадайнічаў, не ставіў перад сабой мэту іх "заваёўваць", бо для людзей яго кшталту ўзровень прафесійнай творчасці вымяраецца іншымі вышынямі. Званні "прыйшлі" як знакі прызнання: у 30 гадоў стаў заслужаным артыстам БССР, потым — народным... Яго настойліва агітавалі пераязджаць у Маскву — адмовіўся: "Не паехаў і не збіраўся. Гэта не мой горад. Я мінчанін. Асабліва адчуваю гэта, калі прыязджаю з гастроляў: з такім задавальненнем вяртаюся ў свой родны Мінск!". Вядома, з прыемнасцю А. Ткачонак выходзіць на родную сцэну, асабліва калі ідзе яго ўлюбёны "Дзядзечкаў сон" паводле Ф. Дастаеўскага.

Ён аддае перавагу характарным ролям, змяшанню жанраў у спектаклях. А яшчэ — мабыць, ад часоў знаёмства з творчасцю Марсэля Марсо — любіць маску клоўна: "Я не хаваюся за маскай. Яна дае мне магчымасць быць унутрана свабодным, дае шырокую амплітуду самавыяўлення ў вобразе. Люблю клаўнаду — высокага кшталту, якая нічога не мае агульнага з камікаваннем, скіраваным на тое, каб толькі пасмяшыць публіку, скажам, стракатымі штанамі. У высокай, трагікамічнай клаўнадзе закладзена брэхтаўскае вырашэнне вобраза: гэта калі нібыта з вачэй артыста фантанамі пырскаюць бутафорскія слёзы, а па шчацэ, можа, і незаўважна для публікі, цячэ сапраўдная, жывая сляза..."

Акцёр, на думку Аляксандра Ткачонка, існуе ў паўзе, а не ў мностве прамоўленых тэкстаў. Для майстра тэатральнага пераўвасаблення важна не толькі арганічна да яе падысці: важна, каб і глядач быў разам з ім у гэтай паўзе, бо менавіта тут і адбываецца самы галоўны абмен — энергетычны, духоўны! Ні выразны фотаздымак, ні дасканалы відэазапіс, ні віртуальная трансляцыя не здатныя зафіксаваць такі стан... Ці не таму ёсць яшчэ дзівакі, а насамрэч — проста дасведчаныя людзі, якія любяць хадзіць у тэатр, якія па-дзіцячы радуюцца кожнай магчымасці адчуць яго жывы подых. І ўдзячныя тым, хто і ў музейных сценах падтрымлівае дух жывога тэатра.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымку: народны артыст, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Аляксандр Ткачонак на сустрэчы ў Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі.

Фота Віктара Кавалёва

**У Вілейскім раёне 11 лістапада ўпершыню прайшла акцыя памяці салдат, якія загінулі ў час Першай сусветнай вайны. Гэты дзень для правядзення акцыі быў абраны невыпадкова, бо менавіта 11 лістапада 1918 года маршалам Форшам (узначальваў франка-англійскія сілы на французскім фронце) у Камп'енскім лесе была падпісана капітуляцыя Германіі, якая па сутнасці і сталася заканчэннем Першай сусветнай. Удзельнікі акцыі памяці, арганізатарамі і ініцыятарамі якой выступілі Вілейскі райвыканкам, Вілейскі краязнаўчы музей і мастак Барыс Цітовіч, навуковы супрацоўнік музея, наведалі месцы пахавання салдат, усклалі кветкі да помнікаў, памаліліся за супакой душ ахвяр гэтай страшнай вайны.**




# Рэанімаваць памяць

Распачалася акцыя з лясных могілак у Вілейцы, дзе пахаваны астанкі воінаў, якія загінулі ў час Першай сусветнай вайны. Пасля ўдзельнікі паездкі наведалі вёску Бараўцы, дзе пабудавана капліца ў памяць Мікалаеўскай вайны. На месцы, дзе сёння стаіць рэканструяваная капліца, да 1973 года размяшчалася святыня, яна была знішчана ў савецкі час.

Наступным месцам прыпынку экскурсіі стала вёска Жарсцвянка, дзе быў вялікі вайсковы лагер Камарышкі. У 2000 годзе тут устаноўлены крыж у час сумеснага велапрабегу беларускіх курсантаў і курсантаў акадэміі Бундэсвера. Удзельнікі праехалі па лініі былога фронту, на шляху заязджалі і на месцы баявой славы Другой сусветнай. Барыс Цітовіч, які ў гэты дзень выконваў ролю экскурсавода, распавёў прысутным: "Пазней я атрымаў ліст ад лейтэнанта Бундэсвера, там ён пісаў, што самы светлы і цікавы момант падарожжа ў Беларусь — калі на магіле рускіх салдат з калегамі з Беларусі ставілі крыж".

У вёсцы Нарач удзельнікі паездкі-акцыі наведалі магілу айца Пятра Сасноўскага. Ён амаль 50 год служыў у храме ў гэтай вёсцы. Барыс Барысавіч расказаў прысутным: "Нам пашанцавала, што айцец Павел пакінуў летапіс, які ён вёў з канца XIX ст. да 1939 года. У ім аказаліся і старонкі, прысвечаныя перыяду Першай сусветнай вайны. Менавіта дзякуючы запісам айца Паўла мы даведаліся пра многія воінскія падраздзяленні, якія змагаліся на нашым участку фронту". Святар Павел Сасноўскі ў час Першай сусветнай быў узнагароджаны высокай афіцэрскай узнагародай — ордэнам Святой Ганны III ступені. Ён быў забіты ў 1944 годзе разам з падлеткам Васілём Занкавічам. У 2006 годзе на магіле айца Паўла і Васіля ўстаноўлены новы помнік і крыж, які знайшлі на гарышчы царквы пры рамонце. "Калі паглядзець на здымак 1916 года, — падкрэсліў Барыс Барысавіч, — на ім дакладна бачна, што гэты крыж стаяў на купале царквы і пад ім шмат год служыў айцец Павел".

Могілкі № 16 Другой рускай імператарскай арміі сталі наступным прыпынкам на шляху ўдзельнікаў акцыі. Другая імператарская армія ваявала менавіта на нашым участку фронту, дзве трэці яе другога саставу складалі выхадцы з беларускіх зямель (ён набраны менавіта тут). "Лёс гэтых могілак уражвае, — распавёў Барыс Цітовіч. — У 1960-х гг. тут быў адкрыты кар'ер, астанкі нашых продкаў вывезены на будаўнічыя пляцоўкі раёна". У 2002 годзе на могілках устаноўлены крыж, зроблены агульнымі намаганнямі сельскага савета і грамадскасці, на ім — словы з малітвы, якой адпявалі воінаў у час Мікалаеўскай вайны. Ні-



жэй — два камяні з надпісамі на беларускай мове. Маленькія крыжыкі — на магілах воінаў Данскога палка. Злева — камень, на якім невялікая інфармацыя пра ахвяры войнаў, а яшчэ — камень у памяць пра рускасельскую царкву, што была знесена разам з могілкамі. На асобным помніку абазначаны ўвесь участак фронту, які праходзіў праз Вілейскі раён.

Наступным прыпынкам на шляху падарожнікаў сталі могілкі вёскі Папоўцы. У час вайны недалёка ад вёскі знаходзіўся перадавы перавязачны атрад 29-й пяхотнай дывізіі XX армейскага корпуса 2-й Рускай арміі. На камені, што ўстаноўлены тут, — імёны загінулых, якія сталі вядомымі з дакументаў Маскоўскага ваенна-гістарычнага архіва. "Як толькі ў мінулым годзе мы ўстанавілі гэты помнік, — паведаміў Барыс Цітовіч, — у архіве знайшлі яшчэ дзесяць прозвішчаў салдат, таму на гэтым месцы плануецца паставіць яшчэ адзін камень з наноў адкрытымі імёнамі".

Пабывалі ўдзельнікі паездкі-акцыі і на месцы дыслакацыі лазарэта № 1 29-й пяхотнай дывізіі 2-й рускай арміі 20-га армейскага корпуса. "Сталася так, — расказаў Барыс Барысавіч, — што з гэтага месца пачалося маё вывучэнне гісторыі Першай сусветнай. У 1974 годзе мы пасяліліся тут недалёка ў вёсцы, і восенню таго ж года я натрапіў на гэтыя магілкі. І калі стаў распытваць мясцовых жыхароў, стала вядома, што тут стаяў абоз і быў лазарэт, на брустверы была агароджа, на магілах — крыжы з імёнамі і воінскімі званнямі. Тут 99 магіл, з іх 12 брацкіх. Ішоў час, пасля прыходу бальшавікоў да ўлады крыжы пачыналі падаць, і ніхто не рызыкаваў іх падымаць. Крыжы згнілі, імёны на іх сышлі ў нябыт". Цяпер на могілках стаіць капліца, якую таксама зрабілі сумеснымі намаганнямі.

У гэтым жа лесе — месца дыслакацыі лазарэта, што цягнецца на 400 метраў. Па заключэнні спецыялістаў, яно цудоўна захавалася, нават можна адрозніць аперацыйную зямлянку з асобнымі ўваходамі, маленькія дапаможныя зямлянкі. Непадалёк у лесе ёсць і асаблівы камень, які атрымаў назву "Камень сораму". "Праводзілі тут пленэр, на якім працавалі мастакі з розных краін, — распавёў Барыс Цітовіч. — Адзін немец, скульптар з Брэмена, на камені зрабіў надпіс старажытным гатычным шрыфтам на нямецкім дыялекце і пакінуў пераклад. У тэксце ён просіць прабачэння за два паходы немцаў на гэтыя землі. Аказалася, што яго бацька ў час Другой сусветнай служыў у СС. І таму нямецкаму скульптару здавалася, што, калі ён прыедзе ў Беларусь, яго па твары адразу вылічаць і заб'юць. "Мае сваякі пралілі шмат крыві, і я не магу нічога лепшага зрабіць, як пакаяцца, — казаў ён. — Мне за іх сорамна".

Наведалі ўдзельнікі акцыі-паездкі і храм-помнік — Барысаглебскую капліцу, што ўзведзена ў вёсцы Заброддзе. У яе прытворы — музейная экспазіцыя. На такі варыянт блаславіў Уладыка Філарэт, які два гады таму быў у гэтых мясцінах. У невялічкім музеі сабрана сапраўды вялікая калекцыя прадметаў часоў Першай сусветнай. Фотаздымак айца Пятра Сасноўскага з братам, асобная інсталяцыя, прысвечаная "Свянцянскаму прарыву", вінтоўка Мосіна, фота Хайрэма Максіма, які вынайшаў кулямёт…

"У нашых краях ваявала многа знакамітых людзей, — распавёў Барыс Барысавіч, — нават удалося натрапіць на след паэта Мікалая Гумілёва, які служыў у 5-м Александрыйскім палку (гэты полк размяшчаўся непадалёк). Тут ваяваў Валянцін Катаеў, у Смаргоні начальнікам шпіталя была дачка Льва Талстога, Міхаіл Булгакаў служыў хірургам у Баранавічах, Сяргей Ясенін, як і Аляксандр Вярцінскі, былі медбратамі".

Нягледзячы на тое, што праграма паездкі-акцыі была дастаткова насычанай, яе ўдзельнікі не змаглі наведаць усе памятныя месцы. "Згодна карце 20-га армейскага корпуса, у гэтых мясцінах ёсць яшчэ, каля дзесяці пахаванняў, — заўважыў Барыс Цітовіч. — Іх трэба знайсці, удакладніць, пазначыць. У Смаргоні ў хуткім часе будзе створаны вялікі мемарыяльны комплекс. З аднаго боку, гэта добра, з іншага ж — сапраўдныя пахаванні салдат будуць знікаць, забывацца, тым больш, калі яны неўпарадкаваныя. На жаль, безыменных, недагледжаных магіл усё яшчэ застаецца многа. Але калі сёння ёсць сярод нас маладыя людзі, ёсць і дынаміка ў вырашэнні пытанняў, распрацоўцы гэтай невычэрпнай і трагічнай тэмы. Паглядзіце здымкі, можа, і вы знойдзеце фота свайго дзеда, прадзеда ў форме салдата Першай сусветнай вайны".

Марына ВЕСЯЛУХА

На здымках: памятны знак на могілках № 16 Другой рускай імперскай арміі (вёска Рускае Сяло); Барысаглебская капліца — храм-помнік у вёсцы Заброддзе.

Фота аўтара

# Быў там, дзе небяспека

Месца, дзе пахаваны Павел Цітоў, партызан, удзельнік буйных вайсковых аперацый, доўгі час было невядомым яго родным. Толькі ўпартыя дваццаціпяцігадовыя пошукі, пераадоленне "сакрэтнасці" ў 1968 годзе дазволілі знайсці магілу героя яго малодшаму брату Кірылу.

Павел Цітоў нарадзіўся ў 1918 годзе ў вёсцы Кочышча Ельскага раёна Палескай вобласці. Па ўрыўкавых звестках, што захавалі архіўныя дакументы і мемуарная літаратура, з 1939 г. вучыўся ў Мінскай юрыдычнай школе, адкуль быў выпушчаны ў 1941 г. у ліку лепшых навучэнцаў. Быў накіраваны ў Брэсцкую вобласць на працу. У хуткім часе вайна прыпыніла работу.

У дзеючай арміі з 22 чэрвеня 1941 г. Спачатку разам з вайсковымі часцямі ён адступае, але недалёка ад Баранавіч трапляе ў нямецкі палон. У хуткім часе ўцякае з палону і рухаецца ў кірунку ракі Бярэзіны. Паколькі нямецкія часткі перагарадзілі магчымыя шляхі да адступлення, Павел Цітоў прымае рашэнне спыніцца на радзіме сваёй жонкі Вольгі ў вёсцы Волма Чэрвеньскага раёна. Тут ён наладжвае сувязь з партызанскай групай атрада імя газеты "Правда" і далучаецца да дзейнасці партызанаў. Гэта адбылося 28 верасня 1942 г.

Толькі ў кастрычніку 1942 г. пры актыўным удзеле Паўла Цітова каля "Рыбгаса" быў узарваны грузавы аўтамабіль з нямецкімі салдатамі, разгромлены нямецкі аўтамабіль на шашы Чэрвень — Магілёў. У той жа перыяд у складзе партызанскага атрада "Полымя" ён удзельнічаў у разгроме варожых гарнізонаў у вёсках Сітнікі і Матарова, нападзе на нямецкі гарнізон у мястэчку Смілавічы. Значная шкода ворагу была нанесена ў лістападзе таго ж года, калі група партызанаў, у складзе якой быў і Павел Цітоў, напала на прадуктовую базу немцаў у саўгасе "Любін".

У студзені 1943 г. Павел Цітоў атэставаны на прысваенне звання малодшага лейтэнанта дзяржбяспекі, прадстаўлены да ўзнагароджання ордэнам Чырвонага Сцяга.

Як згадваў камандзір партызанскага атрада Г. М. Раманаў: "Цітоў заўсёды быў там, дзе пагражала небяспека". Так здарылася і 23 чэрвеня 1943 г., калі група партызанаў з чатырох чалавек, у складзе якіх быў і Павел Цітоў, прыбыла на "спатканне" з пухавіцкай паліцыяй да вёскі Ліпнуць (магчыма, Г. М. Раманаў меў на ўвазе вёску Ліпнікі Пухавіцкага раёна. — Рэд). Але гэта былі не перамовы, а варожая засада. Тым, хто апынуўся ў акружэнні ворагаў, прапанавалі здацца, але дзякуючы ўласнай смеласці і рызыкоўнасці ,партызаны выйшлі пераможцамі з гэтай нечаканай сітуацыі.

Як сведчаць архіўныя дакументы, толькі ў чэрвені — жніўні 1943 г. праз агентурную сетку, што была наладжана Цітовым у Мінску, у горадзе правялі 9 дыверсій. Удзельнічаў ён і ў выкананні пэўнага ўрадавага задання — падрыве чыгуначнага палатна на ўчастку Седча — Міханавічы. У выніку праведзенай аперацыі быў знішчаны варожы блокпост, забіта шасцёра нямецкіх салдат.

На баявым шляху Паўла Цітова яшчэ шмат падзей і перамог, але варожая куля заўчасна прыпыніла яго зямны шлях. Камандзір партызанскага атрада імя Чапаева партызанскай брыгады "Полымя" Г. М. Раманаў згадваў: "Павел Цітоў — памочнік камандзіра атрада па агентурнай разведцы — і начальнік разведкі Мікалай Свідзінскі пачулі страляніну ў баку вёскі Міжрэчча, калі яны знаходзіліся ў лесе каля вёскі Вугалец, і па трывозе выехалі ў кірунку вёскі Міжрэчча. Партызаны дасягнулі краю лесу. Атрад нямецкіх салдат пачаў рухацца да вёскі Вугалец. Павел Цітоў, жадаючы папярэдзіць аб небяспецы жыхароў Вугальца, на коні паскакаў у бок вёскі і знік з поля зроку. Але ў яго было замала часу! Гэта прывяло да таго, што Павел Цітоў нарваўся на ланцуг карнікаў і быў цяжка паранены".

Таварышы па зброі і жыхары вёскі знайшлі яго раніцай наступнага дня ў лясным гушчары за 150 метраў ад дарогі ў непрытомным стане. Тады Павел Цітоў быў яшчэ жывы, але ва ўмовах партызанскага шпіталя раненні ў жывот аказаліся смяротнымі.

У матэрыялах Беларускага штаба партызанскага руху, якія захоўваюцца ў Цэнтральным Архіве Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі, ёсць звесткі пра палітрука Цітова Паўла, які быў забіты 10 снежня 1943 г.

Як пісаў у сваіх успамінах камандзір атрада Г. М. Раманаў: "З любімцам атрада, які геройчна загінуў, ратуючы людзей, прыйшлі развітацца і аддаць яму апошнюю даніну не толькі партызаны, але і жыхары вёскі Вугалец. Павел Цітоў пахаваны на могілках вёскі Вугалец з усімі партызанскімі ўшанаваннямі".

У мемуарах П. І. Іваненкі, камандзіра партызанскага атрада імя газеты "Правда", дыслакацыя якога была ў Чэрвеньскім раёне Мінскай вобласці, таксама згадваецца пра "геройчную гібель ветэранаў партызанскай барацьбы ў тыле ворага" — Паўла Цітова, Мікалая Свідзінскага і іншых.

Анатоль ЦІТОЎ

Пачну з агульных сцвярджэнняў. Па розных падліках, у замежных краінах сёння знаходзіцца ад трох да чатырох мільёнаў (!) нашых суайчыннікаў. Гэта і карэнная насельніцтва на памежных тэрыторыях (Беласточчына, Латгалія, Віленскі край, Смаленшчына), і перасяленцы (Сібір, Казахстан), і эмігранты (краіны Амерыкі, Заходняй Еўропы, Аўстралія). А калі сюды дадаць яшчэ продкаў і нашчадкаў нашых суайчыннікаў, утворыцца велізарная колькасць асоб, якія па розных прычынах мусілі пакінуць радзіму і працаваць на карысць іншых краін, стаць для іх (часцей за ўсё) бясплатнай донарскай крывёю. У адных выпадках — элітарнай, інтэлектуальнай, у другіх — працоўнай, а то і жабрачай.



# Рыхтуецца да друку

Работа над энцыклапедычным даведнікам "Беларусы ў свеце" была распачата пад маім навуковым кіраўніцтвам у Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Францыска Скарыны пры Міністэрстве адукацыі Беларусі яшчэ ў 1993 годзе ў адпаведнасці з тагачаснай аднайменнай дзяржаўнай праграмай. Першыя чатыры гады яна вялася на грамадскіх пачатках Міжнароднай асацыяцыяй беларусістаў, якая стварыла значную інфармацыйную базу. У 1997 годзе кіраўніцтва і фінансаванне будучага даведніка ўзяў на сябе тагачасны Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей. Тады ж было вырашана падзяліць работу на дзве часткі: так званыя блізкае і далёкае замежжа. Першае выданне першай часткі пабачыла свет у 2000 годзе пад назвай "Беларусы і ўраджэнцы Беларусі ў памежных краінах" аб'ёмам 42 аркушы. Яно складалася з чатырох раздзелаў: I. Агульныя артыкулы; II. Арганізацыі, установы, падзеі; III. Выданні; IV. Персаналіі. Кніга (выдавецтва "Энцыклапедыкс") была ілюстравана, хоць і небагата, атрымала добрыя ацэнкі ў друку.

Аднак неўзабаве аказалася, што па розных прычынах у выданне не ўвайшлі многія персаналіі. Асабліва гэта датычылася асоб, якія дасягнулі грамадскіх, навуковых, культурных поспехаў у апошнія гады. Таму той жа камітэт у 2006 годзе вырашыў рыхтаваць другое, значна дапоўненае выданне аб'ёмам ужо 62 аркушы. Да канца года работа была выканана. Але ў гэты час выявілася, што паколькі камітэт рэфармаваўся, няма сродкаў на выданне даведніка. І ўсё адно інфармацыя назапашвалася.

І вось сёлета, пасля арганізацыі Міністэрствам культуры Кансультатыўнага савета па справах беларусаў замежжа, куды ўвайшлі кіраўнікі суполак суайчыннікаў памежных краін, работа над даведнікам зноў зрушылася з месца: знайшліся дабрадзеі. Другое, дапоўненае выданне падтрымаў савет Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусы Расіі". На адрас аўтарскага калектыву (рэдакцыя газеты "Голас Радзімы", праспект Незалежнасці, 44 — 23, 220005, Мінск-5) пачалі паступаць новыя, дадатковыя артыкулы з вялікай прасторы — ад Уладзівастока да Санкт-Пецярбурга і Калінінграда. У падрыхтоўку ўключыліся нашы землякі і калегі ў Казахстане, Латвіі, Літве, Малдове, Польшчы, Украіне, Эстоніі. Рэдакцыйную работу над томам, які павялічваецца да 83 — 85 аркушаў, аўтарскі калектыў плануе закончыць да Новага года. Распаўсюджанне мяркуецца весці праз тыя ж суполкі нашых суайчыннікаў у памежных краінах.

А ці могуць уключыцца ў распачатую справу чытачы "Літаратуры і мастацтва"? Безумоўна, могуць, але толькі на працягу снежня 2010 года. Калі ў вас ёсць знаёмыя або сваякі за мяжой, якія заслугоўваюць артыкулаў пра іх, то напішыце і дашліце кароткую біяграфічную даведку (абавязкова са здымкам) або знайдзіце кампетэнтнага аўтара. Максімальны памер — старонка тэксту 14-м шрыфтам (2000 знакаў). І абавязкова ўлічвайце нашы крытэрыі! У даведніку будзе сабрана інфармацыя пра беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі ў яе цяперашніх дзяржаўных межах, а таксама пра продкаў і нашчадкаў нашых суайчыннікаў за мяжой, калі яны сваю беларускасць чымсьці істотным засведчылі (належнасцю, напрыклад, да беларускіх арганізацый, напісаннем твораў на беларускай мове або адпаведным запісам у дакументах).

Увогуле ж "планка" ў даведніку досыць высокая. Гэта не значыць, што ў нас дзейнічае нейкі табель аб службовых рангах. Ёсць, скажам, у нас артыкул пра радавога рабочага-беларуса з Украіны, але на яго рахунку некалькі дзясяткаў запатэнтаваных вынаходніцтваў. "Герой" нашых персанальных артыкулаў найперш павінен быць Асобай — не простым выканаўцам нейкай справы, а яе ініцыятарам ці арганізатарам, чалавекам, вядомым у сваёй прафесіі ці згуртаванні. Напрыклад, сярод вайскоўцаў перавага аддаецца (калі няма дадатковых падстаў) генералам і адміралам, сярод навукоўцаў — дактарам навук, акадэмікам, лаўрэатам. А з літаратараў, натуральна, выключаюцца графаманы, хаця на адлегласці "выкрыць" іх даволі цяжка. Калі рыфматворца адначасова выдае добрую газету нашай замежнай суполкі або ўзначальвае яе, а ў дадатак яшчэ і добры журналіст ці інжынер, то месца яму ў даведніку забяспечана.

Адным словам, нам патрэбны Асобы, якімі мы можам, маем права ганарыцца. А на нашай старонцы ў газеце "Літаратура і мастацтва" будзем аддаваць перавагу пісьменнікам, дзеячам мастацтва.

Мы не толькі вядзём работу над выданнем пра суайчыннікаў у памежных краінах, але і імкнёмся папоўніць базы дадзеных пра беларусаў у так званым далёкім замежжы.

Адам МАЛЬДЗІС

На здымку: выстава, зладжаная згуртаваннем беларусаў у Амерыцы.

## У будучы даведнік

# Галоўная беластоцкая беларусістка



Цітка Лілія (4. 12. 1959, мяст. Крынкі Падляшскага ваяв., Польшча), доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры беларускай культуры Універсітэта ў Беластоку (з 2008).

Л. Цітка закончыла аддзяленне рускай філалогіі гуманістычнага факультэта філіяла Варшаўскага ўніверсітэта ў Беластоку (1983). На факультэце русістыкі і прыкладной лінгвістыкі таго ж універсітэта абараніла ў 1994 г. кандыдацкую дысертацыю (дактарат). Абарона ж доктарскай (доктара габілітаванага) адбылася на філалагічным факультэце ўніверсітэта імя Мікалая Каперніка ў Торуні (2007).

Навуковыя дасягненні Л. Ціткі знайшлі ўвасабленне ў трох кніжных выданнях на польскай мове. Гэта "Слоўнік гістарычных асабовых назваў Беласточчыны (XV — XVIII стст.)" (т. I — II. Беласток, 1997 — 1998, у сааўтарстве з З. Абрамовіч і Л. Дацэвіч), "Асабовыя назвы паўночнага Падляшша ў XVI стагоддзі" (Беласток, 2001), "Хроніка Быхаўца" на фоне гісторыі і геаграфіі беларускай мовы" (Беласток, 2006). У іх, а таксама ў артыкулах вучонай, змешчаных у калектыўных зборніках і часопісах, найперш даследуецца старабеларуская мова ў пісьменстве Вялікага Княства Літоўскага, асабліва ў помніках, што нарадзіліся ў Супрасльскай лаўры, — іх фанетыка, словаўтварэнне, лексіка ў розных тыпах тэкстаў, а таксама анамастыка Падляшша (антрапаніміка, тапаніміка, урбаніміка на польска-беларуска-літоўскай мяжы, аналізаваная ў моўна-этнічным і рэлігійна-культурным аспектах).

Пад кіраўніцтвам Л. Ціткі кафедра беларускай культуры ўніверсітэта ў Беластоку праводзіць шматгранную навуковую і асветную работу, арганізуе так званыя "беларускія чацвяргі", на якія прыязджаюць вучоныя з іншых гарадоў.

Ян ЧЫКВІН,
г. Беласток

# Невядомая раней спецыяльнасць…

Усходазнаўства, арыенталістыка — і зараз прыцягальны, часам загадкавы кірунак дзейнасці. Што ўжо казаць пра XVIII — XIX стагоддзі!.. У свой час вядомы і ў Беларусі даследчык Ю. І. Крачкоўскі зазначыў, што ў Расіі яшчэ мала ведаюць усходазнаўцаў "з ваеннага асяродку" і што "такія несумненна былі, і нельга іх усіх залічыць без разбору ў групу перакладчыкаў-практыкаў".




У паслярэвалюцыйны перыяд рускае ваеннае ўсходазнаўства, яго ўнікальная школа і традыцыі перажылі ўпадак і забыццё. Доўгі час нават гаварыць пра існаванне ў Расіі ваеннага ўсходазнаўства як самастойнага кірунку ў даследаваннях Усходу лічылася навукова несур'ёзным. І тым не меней ваеннае ўсходазнаўства, якое ўзнікла ў першай палове XIX стагоддзя як прыкладная, навукова-практычная форма даследаванняў, да 1917 г.ператварылася ў асобную галіну ведаў пра Усход у самым шырокім разуменні. З'явілася некалькі буйных ваенна-ўсходазнаўчых цэнтраў: у Санкт-Пецярбургу, на Каўказе (Тыфліс), у Туркестане (Ташкент), на Далёкім Усходзе (Хабараўск, Уладзівасток, Харбін). У пачатку XX стагоддзя ў Рускай арміі нават з'явілася невядомая дагэтуль спецыяльнасць "Афіцэр-усходазнавец" ("Афіцэр-арыенталіст"), якая была ўключана ў штатны расклад пагранічных ваенных акруг, карпусоў, дывізій, асобных крэпасцей і пастоў.

Сучасны даследчык Міхаіл Казбекавіч Басханаў падрыхтаваў і выдаў біябібліяграфічны слоўнік "Рускія ваенныя ўсходазнаўцы да 1917 года" (Масква, выдавецкая фірма "Восточная литература" РАН, 2005 год). Даведнік складаецца больш як з 400 артыкулаў, у кожным з іх прыводзяцца біяграфічныя даныя, кароткая характарыстыка ваенна-ўсходазнаўчай дзейнасці і бібліяграфія. М. Басханаў уводзіць у навуковы ўжытак таксама імёны шмат каго з ураджэнцаў беларускіх губерняў Расійскай імперыі — Гродзенскай, Віцебскай, Мінскай, Віленскай, Магілёўскай. Так, у слоўніку, як правіла, не ўказваюцца дакладныя месцы нараджэння персанажаў. І ўсё ж выданне ў якасці фундаментальнага апірышча можа паспрыяць далейшай адаптацыі многіх постацей у стасунках з Беларуссю. Найперш хацелася б, каб увагу на працу звярнулі беларускія энцыклапедысты.

Родам з Віленскай губерні — капітан Іван (Ян) Віктаравіч Віткевіч (1808 — 1839). За ўдзел у рэвалюцыйным руху ў 15-гадовым узросце накіраваны радавым на Арэнбургскую лінію. Больш як 10 гадоў праслужыў салдатам. Вывучыў усходнія мовы. Надрукаваў важныя звесткі пра Бухарскае ханства. Падарожнічаў па Афганістане і Персіі. 30 сакавіка 1839 г. вярнуўся ў Пецярбург — прывёз дарожныя дзённікі, справаздачы, тапаграфічныя здымкі і планы гарадоў і крэпасцей Усходняй Персіі і Афганістана. Павінен быў быць прынятым Імператарам. Але раніцай 9 мая 1839 года маладога чалавека знайшлі мёртвым у нумары гасцініцы "Парыж".

Ураджэнец Беларусі — Міхаіл Пятровіч Урончанка (1801 — 1855). Яго імя якраз добра вядомае. Дарэчы, Урончанка — перакладчык на рускую мову твораў Байрана, Гётэ, Шэкспіра, Міцкевіча. У бібліяграфіі літаратуры пра нашага земляка ўкладальнік згадвае працы В. П. Грыцкевіча. У тым ліку і артыкул з часопіса "Весці АН БССР" (1977, № 5).

З дваран Курляндскай губерні (але падкрэслена: "Ураджэнец Віцебскай губерні… Адукацыю атрымаў у Полацкім кадэцкім корпусе…") — генерал-маёр Мікалай Ільіч Гатшалк (21.09.1871 — ?). Асобныя артыкулы — пра генерал-маёра Міхаіла Уладзіміравіча Грулёва (ураджэнец Віцебскай губ., у 1910 — камендант Брэсцкай крэпасці), палкоўніка Пятра Карлавіча Залескага (1850 — 26.11.1916, з дваран Гродзенскай губ.), генерал-маёра Васіля Андрэевіча Калаура (06.02.1843 — 1919, з дваран Мінскай губ.), генерал-маёра Барыса Мікалаевіча Кастальскага (13.02.1868 — 21. 01. 1943, з дваран Віленскай губ.), капітана Вячаслава Яўгенавіча Кірылава (22.09.1877 — ?, з дваран Віцебскай губ.), генерала ад інфантэрыі Аляксандра Вісарыёнавіча Камарова (24.08.1830 — 27.09.1904, з дваран Віцебскай губ.), генерал-лейтэнанта Аляксандра Мікалаевіча Карульскага (21.08.1863 — ?, ураджэнца Мінскай губ.), капітана Івана Мікалаевіча Кохана (17.09.1878 — 30. 05. 1915, з сялян Віленскай губ.), штабс-капітана Мікалая Аляксандравіча Палявога (04.10.1875 — ?, з сям'і ганаровага грамадзяніна Мінскай губ.).

Несумненную цікавасць выклікаюць і іншыя "беларускія" постаці ваенных усходазнаўцаў. Як, прыкладам, Іван Канстанцінавіч Сярэбранікаў (12.10.1865 — ?). Генерал-лейтэнант. З патомных ганаровых грамадзян Віцебскай губерні. Усходазнаўчую адукацыю атрымаў на курсах мовы індустані (урду) пры штабе Туркестанскай ваеннай акругі (1899 — 1901). Аўтар грунтоўнага даследавання "Інда-брытанская армія".

З дваран Мінскай губерні — генерал-лейтэнант Канстанцін Мікалаевіч Смірноў (19.05.1854 — ?). У 1904 годзе — камендант крэпасці Порт-Артур. З патомных дваран Гродзенскай губерні — палкоўнік Леў Мікалаевіч Скурат (14.11.1871 — ?), які ў 1905 — 1917 гг. кіраваў разведкай у Афганістане і Усходняй Персіі. З дваран Магілёўскай губ. — генерал-лейтэнант Міхаіл Рыгоравіч Чарняеў (1828 — 04.08.1898) першы ваенны губернатар Туркестанскага краю.

Сапраўды, праца М. Басханава — унікальная крыніца звестак пра рускіх ваенных усходазнаўцаў, у тым ліку — і нашых суайчыннікаў.

Мікола БЕРЛЕЖ

# Рыцар пяра

Люблю я больше всех на свете
Вас, честных рыцарей пера,
Готовых часто до утра
Стоять у алтаря газеты.
Не ради славы или денег,
Как, может быть, иной поймёт —
Вам кажется, без этих бдений
Она и дня не проживёт.
И пусть над вами посмеётся
Успех, изменчивый, как ртуть.
Но счастье, если удаётся
В газету солнце завернуть!



Гэты верш пра журналістаў яшчэ ў 1972 годзе я прысвяціў Раману Ярохіну. Тады нам падавалася, усё жыццё наперадзе, мы былі поўныя творчых сіл, працавалі ў адной газеце — "Советской Белоруссии" — і цалкам аддавалі ёй сябе, як каханай жанчыне. Спачатку я трохі пабойваўся Рамана Аляксеевіча. Ён манументальна сядзеў за сваім сталом у аддзеле культуры, які ўзначальваў, з незадаволеным тварам паглыбляўся ў рукапісы, што патрабавалі дапрацоўкі, размалёўваў іх алоўкам. Пазней сам адчуў, як цяжка сядзець перад рэдактарам, які мае рацыю і таму катэгарычны. Заўжды прыгадвалася класіка: "И будь спокоен, как вода / в графине, перед прокурором". Але мала хто заставаўся спакойным. Праводзіўшы недарэчнага аўтара, Ярохін выходзіў на калідор пакурыць, імкнучыся не паказаць, што ён таксама хвалюецца.

У яго быў закон рэдактарскай этыкі: чытаць абсалютна ўсе кнігі, на якія заказваў рэцэнзіі альбо на тыя, што прыходзілі "самацёкам". Наведваць усе кінатэатры, паказы, канцэрты ці то мастацкія выставы, пра якія ішла размова ў артыкулах, нават калі пісалі іх вядомыя прафесіяналы, такія, як, напрыклад, Тацццяна Арлова, альбо Дзіна Манаева, альбо Барыс Бур'ян. У маёй немалой журналісцкай практыцы мне больш не давялося сустрэць загадчыка аддзела культуры ў часопісе ці газеце, які рабіў бы гэтак жа. Зразумела, была тут і асцярожнасць партыйнага журналіста: памылкі ў той час не дараваліся. Тым больш што столькі маральных праблем паўставала перад ім! Газета першая ў рэспубліцы — уладная, шырокавяшчальная: тыраж амаль паўмільёна. Не было аўтара, які б, выдаўшы кнігу, не спяшаўся прыйсці з ёю сюды, на праспект Леніна, 79.

Зараз у двухпакаёвай кватэры Ярохіна без малога палову плошчы займаюць кнігі. Асобныя шафы прысвечаны выданням з дарчымі надпісамі. Па іх цалкам можна скласці характарыстыку Рамана Аляксеевіча, і такая яна атрымліваецца, кажучы канцылярскай моваю, станоўчая, што Ярохін мала каму гэтыя аўтографы паказвае. А што было рабіць пісьменнікам, нават з імем, калі кніга, на якую напісана некампліментарная крытыка, была яе вартая? Таму і аўтарытэтных нядобразычліўцаў у Ярохіна ў той час было не менш, чым сяброў. Здаралася, адрынутыя аўтары тут жа ішлі да галоўнага рэдактара газеты Аляксандра Зініна, і часта ім удавалася дабіцца свайго: зняць артыкул ці перарабіць яго. Аляксандр Кандрацьевіч глядзеў далей, чым Ярохін, ён усё ж такі быў палітыкам. Сустрэчы са слаўтымі, многія з якіх перараслі ў шматгадовае сяброўства, далі магчымасць Ярохіну пазней напісаць кнігу "Интонация вздоха" (2005), якая стала з'явай у беларускай журналістыцы. Нездарма прадмову да яе напісаў Іван Шамякін, і літаральна за два тыдні да сваёй смерці ў тэлефоннай размове з аўтарам доўга і цёпла гаварыў пра кнігу Янка Брыль.

Наглядзеўшыся на тое, як Ярохін размаўляе з класікамі, і справіўшыся з пачуццём няёмкасці, рашыўся і я паказаць яму вершы, якія ўжо два гады ляжалі ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". Традыцыйна рукапісы аддзел паэзіі выдавецтва аддаваў на чытанне двум рэцэнзентам. Маім ашчаслівілі Уладзіміра Нядзвецкага і Фёдара Яфімава. Першы кнігу ўхваліў, другі цалкам "зарэзаў". Рукапіс адклалі. Ярохін да "Советской Белоруссии" доўгі час працаваў старшым рэдактарам у выдавецтве "Мастацкая літаратура". Шмат рукапісаў прайшло праз яго рукі. У мяне ёсць копія фотаздымка: Ванкарэм

У яго быў закон рэдактарскай этыкі: чытаць абсалютна ўсе кнігі, на якія заказваў рэцэнзіі альбо на тыя, што прыходзілі "самацёкам". Наведваць усе кінатэатры, паказы, канцэрты ці то мастацкія выставы, пра якія ішла размова ў артыкулах, нават калі пісалі іх вядомыя прафесіяналы, такія, як, напрыклад, Тацццяна Арлова, альбо Дзіна Манаева, альбо Барыс Бур'ян. У маёй немалой журналісцкай практыцы мне больш не давялося сустрэць загадчыка аддзела культуры ў часопісе ці газеце, які рабіў бы гэтак жа.

Нікіфаровіч, Алесь Адамовіч і Раман Ярохін "пацеюць" над рукапісам рамана "Сыны ідуць у бой". Дай, думаю, параюся з вопытным чалавекам.

І вось сяджу я насупраць каржакаватага, упэўненага ў сабе калегі, пад кашуляю якога, добра памятаю, бачная была цяльняшка (потым даведаўся, што на фронт Ярохін пайшоў добраахвотнікам і ваяваў у 11-м паветрана-дэсантным палку плячо да пляча з марской пяхотай) і скоса назіраю за выразам яго твару. Патроху зморшчыны на яго ілбе сталі разгладжвацца. Над вершамі, на яго думку, трэба было яшчэ папрацаваць. Не скажу, каб такое заключэнне мяне ўзрадавала. Мне здавалася, што нічога ў напісаным кранаць было нельга. Пагутарылі. Не сказаць, каб надта горача, але як там у Маякоўскага: "Флейта и немножко нервно". Дні праз тры з вялікай нелюбоўю да сябе зноў зайшоў у кабінет Ярохіна: усё ж такі з чымсьці ў яго заўвагах нельга было не згадзіцца. Ён узрадаваўся, выпраміўся, за радушнасцю схаваў задавальненне, што перамог. Я перапрацоўваў радкі і паказваў праўку. Іншы раз не толькі сябе, але і яго ненавідзеў. За ўпартасць, за нежаданне, як мне тады падавалася, зразумець відавочнае. Аднойчы нават напісаліся вершы; ведаючы іх, Раман Аляксеевіч да гэтых часоў не здагадваецца, хто быў іх натхняльнікам. Таму што там ёсць крыўдныя для яго радкі:

Но почему он счастлив,
если прав,
А в прямоте его
нет снисхожденья?
Искать в глазах его
сердечное движенье —
Что в костыле
искать сустав.

"Кастыль" нарадзіўся таксама не выпадкова. На вайне Раман Аляксеевіч быў моцна кантужаны; засыпанага зямлёй, таварыш выцягнуў яго амаль з магілы. Уратавалі сібірака, вярнулі да жыцця, але ў шпіталях ён правёў не адзін год. А на кастыль абапіраўся яшчэ некалькі гадоў. Затое як ён яму дапамог аднойчы! Прыёмная камісія БДУ, куды Ярохін хацеў і надта спяшаўся з апошняга свайго шпіталя, ды ўсё роўна спазніўся, адмовілася прымаць дакументы: верасень на дварэ, заняткі ўжо ідуць, прыходзьце на наступны год. Ярохін — да рэктара. Той — няўмольны. Хлопец у бесказырцы пабляднеў, напружыўся і ўзняў кастыль над падлогай. Гэтага аказалася дастаткова, каб праблема была вырашана.

…У рэшце рэшт, праца над кніжкай вельмі зблізіла нас. А выйшла яна, "На счастье", у 1972 годзе: Ярохін паехаў да тагачаснага галоўнага рэдактара "Мастацкай літаратуры" Уладзіміра Шахаўца і папрасіў прачытаць рукапіс. Той адразу паставіў яе ў план выпуску.

Другім кабінетам Рамана Аляксеевіча была дарога. Ён пастаянна некуды з'язджаў. Няма, пэўна, на карце Беларусі месца, дзе б ён не пабываў. Адусюль прывозіў нарысы пра людзей, роздумы наконт тых ці іншых падзей, крытычныя артыкулы. Цікавы факт: аднойчы ў Пінску яго шукае "худзенькае дзяўчо з ямачкамі на шчоках". У вучнёўскім сшытку вершы. Дзяўчынку суправаджае настаўніца: "Ці не маглі б вы паглядзець? Наша Жэня збіраецца ў сельгасінстытут паступаць. Можа, лепш ва ўніверсітэт, на філфак?" Праз некалькі гадоў Жэня Янішчыц, ужо загадчык аддзела паэзіі часопіса "Маладосць", пры сустрэчы скажа яму: "Я ж ваша хрэсніца. Так, вы мой хросны бацька. Гэта ж вы пры той сустрэчы ў Пінску сказалі мне: "Вашы вершы пахнуць Ясельдай". І гэтак упэўнена параілі мне ісці ва ўніверсітэт, на філфак, што я вам адразу паверыла".

Пасля адной яго камандзіроўкі — у Полацк — і артыкула ў газеце, які з'явіўся ў выніку яе, Савет Міністраў БССР прыняў рашэнне аб рэстаўрацыі Сафійскага сабора. Цяпер гэта гучыць будзённа, але тады, у 1967-м, гэта было нібы гром з яснага неба. Ярохін сваім умяшальніцтвам спыніў земляныя работы на Верхнім замку, у сямідзесяці метрах ад Сафійскага сабора. Там, дзе калісьці знаходзіўся дзядзінец старажытнага горада, бульдозер днём і ноччу знішчаў культурныя напластаванні. Дзякуй, журналіст прыехаў своечасова.

Было і такое: Ярохін спяшаецца ў глухую вёску Еськаўка Горыцкага раёна да сляпой паэтэсы Ніны Кавалёвай: яна складае кнігу і моліць Ярохіна, як шматгадовага завочнага кансультанта, дапамагчы ёй у гэтым. Але як аформіць камандзіроўку? Дзеля гэтага ён прымае ўдзел у рэйдзе міністэрстваў — культуры і сельскай гаспадаркі — з праверкай падрыхтаванасці сельскіх культасветвучылішчаў да зімы. Пра што і напіша востры артыкул у газету.

А пасля адной яго камандзіроўкі — у Полацк — і артыкула ў газеце, які з'явіўся ў выніку яе, Савет Міністраў БССР прыняў рашэнне аб рэстаўрацыі Сафійскага сабора. Цяпер гэта гучыць будзённа, але тады, у 1967-м, гэта было нібы гром з яснага неба. Ярохін сваім умяшальніцтвам спыніў земляныя работы на Верхнім замку, у сямідзесяці метрах ад Сафійскага сабора. Там, дзе калісьці знаходзіўся дзядзінец старажытнага горада, бульдозер днём і ноччу знішчаў культурныя напластаванні. Дзякуй, журналіст прыехаў своечасова. Падключыў усіх, ад каго залежала спыніць вандалізм: гаркам, гарвыканкам, таварыства аховы помнікаў, заручыўся падтрымкай Акадэміі навук. Пайшоў да сакратара ЦК КПБ Аляксандра Кузьміна. І ўсё гэта — у самыя кароткія тэрміны.

Пэўна, сяброўства — гэта нейкае сааўтарства душ. Нездарма з'явілася яно ў нас і ў газеце. Нашы публікацыі нараджаліся з паездак па Расіі (Уладзімір, Масква, Казань, Какушкіна, Ульянаўск), з замежжа (Лондан, Парыж, Стакгольм, Хельсінкі — паездкай за мяжу нас прэміраваў Саюз журналістаў БССР за лепшыя нарысы года). Мы сумленна збіралі матэрыял пра Леніна, карыстаючыся адкрытымі ў той час звесткамі пра вялікага чалавека, натхняючыся тым, што бачылі ў музеях свету. Іншыя, незнаёмыя нам тады, цяжкія для сэрца і цяжка спасцігальныя факты, якія патрабавалі больш глыбокага падыходу да асэнсавання супярэчлівай асобы правадыра рэвалюцыі, адкрыліся толькі на пачатку дзевяностых. Таму кніга "Сэрца памятае", апублікаваная ў 1977 годзе, атрымалася, зразумела ж, павярхоўнай, як і сотні на гэтую тэму, па-савецку правільнай. Ды і смеласці Вазнесенскага, які ўжо тады пісаў, што на замежных прылаўках "ветчина и прочая антисоветчина", у нас не аказалася. Я, праўду кажучы, шкадую пра тое. Так, была цэнзура, грошы там хлопцы атрымоўвалі не дарэмна, і ад нашай ветчыны не засталося б і на скварку, але мы былі сляпымі не спецыяльна. У нас сядзела праграма, устаноўленая з дзяцінства. Бацькамі, школай, арміяй, інстытутам, усім ладам жыцця… У адрозненне ад мяне, Раман Аляксеевіч, зрэшты, і цяпер не лічыць, што тая праграма была такой ужо дрэннай. Яму цяжэй, чым мне, адасобіцца ад яе: пры сацыялізме, што з усіх апошніх сіл трымаў курс на перамогу камунізму, ён жыў усё ж такі на пятнаццаць гадоў больш. Цяпер пры сустрэчах мы абыходзім гэтую тэму.

Затое з-за мяжы ён прывёз яшчэ адну кнігу. Ужо сапраўдную. Ідэя напісаць яе нарадзілася нечакана. У Руане нас сардэчна прымаў сам мэр горада. І вось на ўрачыстым прыёме, за віном (камуністычнага колеру), пасля абавязковай на такіх застоллях песні з кінафільма "Нармандыя-Нёман" узнікла размова пра французскае Супраціўленне. І раптам Раман Аляксеевіч пытаецца ў галоўнага гаспадара мерапрыемства: ці ведае ён, што ў іх Супраціўленні прымалі ўдзел беларускія дзяўчаты, а адна з іх нават атрымала званне лейтэнанта французскіх унутраных сіл? Зрэнкі ў мэра акругліліся, і ён усклікнуў: "О, як гэта нова! Гэта ж невядомая старонка гісторыі. Ці магу я папрасіць прыслаць мне кнігу пра гэта?" "Так, прышлю", — вымавіў Ярохін і тут жа спахапіўся: кнігі ж такой няма. Але сказаць пра тое пасаромеўся. І палічыў, што даў слова. Вярнуўшыся дамоў, стаў яго выконваць. Праз некалькі гадоў ён горда паклаў перада мною (тады ўжо выдаўцом) даволі аб'ёмісты рукапіс дакументальнай аповесці "Дзяўчаты нашы за Вердэнам". Некалькі раздзелаў з яе ўжо былі апублікаваны ў часопісе "Нёман", але ж французу ён абяцаў кнігу. Хутка яна была выдадзена.

Абавязковасць, дакладнасць, скрупулёзнасць — гэтыя якасці Ярохіна мне даводзілася назіраць шмат разоў. Пра тое ж сведчаць і яго архівы, якім таксама знайшлося месца ў кватэры. Яны проста непад'ёмныя. Раман Аляксеевіч ніколі не выкідвае праўленыя рукапісы, чарнавікі, накіды будучых прац. Захоўвае нават некаторыя палосы, якія вычытваў на начных дзяжурствах па газеце. Некаторыя з іх маюць гістарычную каштоўнасць (сярод такіх, напрыклад, паласа з ананімным артыкулам "Вопреки исторической правде", скіраваным супраць Васіля Быкава; удалося тады Ярохіну дабіцца ў Аляксандра Зініна некалькіх скарачэнняў асабліва пасквільных месцаў і нешта згладзіць, але зняць артыкул было немагчыма: быў асабісты загад сакратара ЦК КПБ Пілатовіча). Іншыя палосы проста шкада выкідваць. Так што, як жартуе сам Ярохін, архіварыус — яго другая спецыяльнасць…

На святы ён не надзявае ордэнаў і медалёў: кажа, што неяк няёмка звінець імі перад сваякамі. А на вуліцу ўжо даўно не выходзіць. Нядаўна ўгаварылі яго зняцца ў караценькім дакументальным фільме з нагоды юбілею, што набліжаўся. Я якраз зайшоў да яго ў гэты час. Рамана Аляксеевіча доўга не маглі ўпрасіць здымацца без стужачкі ад бесказыркі, якая, як на злосць, кудысьці знікла. І раптам падумалася, што многія з нас, людзі яго пакалення і таго, што за ім, без перабольшвання, не бачаць айчынную журналістыку без Ярохіна, гэтаксама ж, як ён сябе без той, мілай яго сэрцу стужачкі ад франтавой бесказыркі.

Юрый САПАЖКОЎ

Беразіно — гарадок невялічкі, з ліку тых, дзе кожны ведае кожнага і таму гучна можа вітацца з суседам праз дарогу. Гарадок ціхі, люд паважны і нетаропкі, і прыезджаму можа падацца, што нават сам час тут крыху запаволіўся — у іншых мясцінах грыміць, нясецца некуды заклапочанае дваццаць першае стагоддзе, а тут нібыта з дваццатым яшчэ не развіталіся. Але гэтак толькі падаецца. Насамрэч, бярэзінцы шмат у чым нават апярэджваюць час. Бо ў горадзе ўжо цяпер ёсць тое, пра што іншыя райцэнтры могуць пакуль што хіба толькі марыць: ёсць свой фестываль. Тэатральны. І сёлета ён прымаў удзельнікаў і гасцей на шчодрай бярэзінскай зямлі ўжо ў сёмы раз.





# «Бярэзінская рампа»: «Тэле-шоу» на сцэне

Ідэя праводзіць у Беразіне фестываль аматарскіх тэатраў Мінскай вобласці шмат у чым спрацавала дзякуючы няўрымслівасці рэжысёра Народнага тэатра Бярэзінскага дома культуры Мікалая Пытляка. Сваёй нястомнай і самаадданай працай ён падрыхтаваў мясцовую публіку да ўспрымання тэатральнай падзеі належным чынам. У Беразіне з'явіліся сапраўдныя аматары тэатра са сваёй ацэнкай ідэі драматычнага твора і акцёрскай інтэрпрэтацыі. А шмат каго з бярэзінцаў Мікалай Мікалаевіч проста нават далучыў да сцэны. Для яго тэатральная трупа — зусім не тое, што павінна быць стабільным і абмежаваным па колькасці. Для кожнага спектакля рэжысёр збірае пэўны склад выканаўцаў. І каму з землякоў ён прапануе паспрабаваць сябе ў якасці артыста заўтра — вядома толькі яму аднаму.

VII абласны фестываль народных тэатраў "Бярэзінская рампа" распачаўся менавіта спектаклем саміх бярэзінцаў паводле даволі вядомага твора Міхаіла Рошчына "Валянцін і Валянціна". Твор пра каханне, першае і ранняе, і з-за гэтага ледзь не загубленае тымі, хто апынуўся побач з закаханымі. Спачатку падавалася, што выбар няўдалы. Героі, актуальныя ў 1970-я гады, пакутуюць з-за праблем, якіх сёння для маладых не існуе. Рэаліі, нормы паводзін, антураж, гутарка — усё памянялася. Але пасля пятнаццаці хвілін дзеі зала пачала суперажываць. Плакала, успыхвала, спрабавала абмяркоўваць тое, што бачыла на сцэне. І праблемы Валянціна і Валянціны аказаліся не такімі ўжо далёкімі ад нас. Бо каханне заўжды ранімае і крохкае і заўжды мае патрэбу ў парадзе і абароне мудрых сталых людзей, пажадана бацькоў.

Другі дзень трохдзённага фестывалю быў самым насычаным па праграме. З раніцы ў зале стаяў вясёлы смех — законная рэакцыя на выступленне гасцей з Калінінградскай вобласці, артыстаў Інтэрнацыянальнага музычна-драматычнага тэатра-студыі "Лабіау". Яны паказвалі камедыю паводле бессмяротнага твора Леаніда Філатава "Пра Фядота-стральца". Традыцыяй "Бярэзінскай рампы" стала запрашэнне на фестываль аднаго з тэатраў, што працуе па-за межамі Мінскай вобласці альбо нават іншы час па-за межамі Беларусі. Рашэнне паказаць у Беразіне спектакль гасцей з Расіі апраўдала сябе. Такога ўсплёску гумару, такой зладжанасці рухаў і ансамблевай гарманічнасці ніхто нават не чакаў.

Пасля расіян на сцэну выйшлі маладыя артысты са Слуцка. Яны нагадалі нам любімы твор пра вайну — аповесць Барыса Васільева "А зоры тут ціхія". Ігралі з любоўю і павагай да сваіх герояў. Але, мабыць, публіка чакала большага. І сапраўды, вялікай арыгінальнасцю работа слуцкага рэжысёра Аляксандра Туміловіча не адрознівалася. Асабліва ж шкада было, што пры перанясенні на сцэну аповесці цэлы шэраг момантаў, якія маглі б быць разыграны і паказаны, сталіся ўсяго толькі пераказанымі апавядальнікам-нашчадкам адной з гераінь.

Жодзінскі народны тэатр, што дзейнічае пры Палацы культуры аўтазавода, прапанаваў гледачам складаны філасофскі твор — трагікамедыю "Аднакласнікі" паводле п'есы Юрыя Палякова. Герой-афганец, што дваццаць гадоў не выходзіць з комы; экс-каралева прыгажосці; паэт, што ператварыўся ў бамжа; святар маленькай райцэнтраўскай цэркаўкі; школьная выдатніца, якая заблыталася ў жыцці і мужчынах; круты бізнесмен, якога ўсе ненавідзяць, але кожны марыць выпрасіць у яго грошай і, урэшце, аўстралійскі госць, якому ўсе зайздросцяць, не ведаючы, як цяжка яму існаваць там, за акіянам. Усё гэта — аднакласнікі, і лёсы іх пераблытаны гэтак неспасціжна і моцна, што дзіву даешся. Ненавязліва і тактоўна жодзінскія артысты даказалі гледачам, што душэўныя каштоўнасці ва ўсе часы застаюцца важнейшымі за матэрыяльныя.



Нясвіжскі тэатр паказаў ваенную драму "Я заўжды ўсміхаюся" Якава Сегеля. Завяршалі фестываль тэатральныя калектывы з Салігорска і Барысава. Першыя паказалі смешную камедыю Георгія Марчука "Калі заспявае певень", а другія — вартую зайздрасці нават некаторых прафесійных тэатраў, дасканала прадуманую і філігранна адточаную версію п'есы Андрэя Курэйчыка "Тэле-шоу".

Кампетэнтнае журы з прафесіяналаў, якое ўзначальвала народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч, пасля доўгіх спрэчак — бо галасы разыходзіліся і прэтэндэнтаў на галоўныя прызы хапала — прыйшло да высновы, што дыплом лаўрэата паедзе ў Калінінградскую вобласць. Бярэзінскі тэатр быў адзначаны "за ансамблевасць спектакля". Нясвіжскі — "за ўвасабленне ваенна-патрыятычнай тэматыкі", Жодзінскі — "за ўвасабленне твора сучаснага аўтара", Барысаўскі — "за высокі ўзровень майстэрства ў выкарыстанні сродкаў сцэнічнай выразнасці". Дарэчы, Барысаў атрымаў таксама ўзнагароды ў такіх намінацыях, як "Лепшая рэжысёрская работа" (Уладзімір Буйко) і "Лепшая жаночая роля" (Зоя Міхалькевіч). У намінацыі "Лепшая мужчынская роля" перамог салігорскі артыст Сяргей Клязовіч.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

На здымках: Валянцін і Валянціна бярэзінскага тэатра — гэта Рамэа і Джульета XX стагоддзя; Зоя Міхалькевіч з Барысава была прызнана лепшай артысткай; на паказе спектакля "Пра Фядота-стральца" — смяяліся ўсе.

Фота Паўла Цыбіна

## У наступным нумары

"Чырвоны аловак" — назва манаграфіі, працу над якой завяршае доктар гістарычных навук Аляксандр Гужалоўскі. Яе тэма, безумоўна, — новая і цікавая для ўсіх, неабыякавых да гісторыі беларускага кінематографа (які, дарэчы, у наступную пятніцу, 17 снежня, адзначае чарговы дзень свайго нараджэння), тэатральнага, філарманічнага мастацтва, самадзейнай мастацкай творчасці. Аўтар даследуе механізм цэнзурнага кантролю відовішчаў у БССР, грунтуючыся на архіўных матэрыялах 1920 — 30-х гадоў. Нашы чытачы атрымаюць унікальную магчымасць пагартаць старонкі будучай кнігі вядомага гісторыка, завітаўшы на "Сядзібу муз".

З глыбінкі

## «Прамень» і паэзія — узаеманатхненне

Бібліятэкі заўсёды патрэбны людзям. Яны сталі больш сучаснымі, аснашчаны камп'ютарамі і па-ранейшаму верна служаць свайму чытачу, прапануючы і добрую кнігу для душы, і неабходную інфармацыю для працы. Ідэальна, калі ў такой установе працуюць неабыякавыя да літаратуры людзі (бо, на жаль, бывае і наадварот), і тады бібліятэка становіцца культурна-асветніцкім цэнтрам незалежна ад таго, дзе знаходзіцца і якую плошчу займае.

Менавіта такім культурным асяродкам з'яўляецца бібліятэка № 10 у Гродне, дзе ўжо 12 гадоў працуе клуб аматараў кнігі "Прамень". Створаны ён па ініцыятыве загадчыцы Ніны Міхайленка, чалавека апантанага, які ўсе свае веды і творчыя здольнасці аддае асвеце наведвальнікаў, павышэнню іх культуры і развіццю духоўнасці. Клуб ад самага пачатку ставіў сваёй мэтай папулярызацыю творчасці лепшых дзеячаў літаратуры і мастацтва Гродзеншчыны, прывіццё любові да слова.

Члены клуба — людзі розных прафесій. Яго старшыня Міхаіл Антановіч, напрыклад, былы вайсковец, добра ведае беларускую літаратуру, захапляецца гісторыяй роднага краю. Настаўніца Лілія Сухарукава — прыхільніца паэзіі Юркі Голуба. Ніводнай тэатральнай прэм'еры Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра не прапускае Наталля Гардзей.

Шмат цікавых сустрэч адбылося ў клубе з вядомымі людзьмі горада: мастакамі, вучонымі, артыстамі, спевакамі, тэатральнымі дзеячамі. Але найбольш папулярнымі, як прызнаюцца "праменцы", з'яўляюцца вечары паэзіі. Чарговая сустрэча была прысвечана творчасці вядомага паэта Пятра Сямінскага і яго маладых калег Дзмітрыя Радзіёнчыка і Антона Янкоўскага, якія, дарэчы, ужо выдалі свае першыя зборнікі вершаў. Быў запрошаны на вечарыну таксама паэт-аматар Рыгор Гармаш. З задавальненнем слухалі прысутныя паэтычныя творы ў выкананні саміх аўтараў на беларускай, рускай і ўкраінскай мовах, цікавіліся новымі кнігамі паэтаў, іх творчымі планамі. Бібліятэцы, якая стала адным з любімых месцаў сустрэч з аматарамі літаратуры, гродзенскія паэты падарылі свае новыя кнігі.

Людміла КЕБІЧ

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь

ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"

РВУ "Літаратура і Мастацтва"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск,
вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
"Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 2970
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 9.12.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 5968
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686